# ПАГОНЯ

Аўторак
27 красавіка 1999 г.
№ 29 (406)
Кошт 20.000 руб.


## Карпуць застаўся

**Сесія Гарадзенскага абласнога Савета дэпутатаў 23-га склікання абрала старшынёй аблсавета Аркадзя Карпуця.**

Прапанова абраць А.Карпуця кіраўніком аблсавета, які раней ужо быў ім, была падтрымана старшынёй аблвыканкама Аляксандрам Дубко. Па выніках тайнага галасавання ў падтрымку кандыдатуры выказаліся 57 дэпутатаў. Намеснікам старшыні аднагалосна абраны Барыс Казялкоў — кіраўнік адміністрацыі Ленінскага раёна Гродна.

На сесіі былі створаны пастаянныя камісіі па эканоміцы, прамысловасці, аграрных пытаннях, ахове навакольнага асяроддзя і г.д., а таксама абраны прэзідыум абласнога Савета.

## Жывем у пазыку

**Згодна з афіцыйнай статыстыкай, запазычанасць спажыўцоў электраэнергіі ў Гарадзенскай вобласці перавысіла 4 трыльёны рублёў.**

Галоўным неплацельшчыкам застаецца сельская гаспадарка, якая запазычыла больш за 2 трыльёны рублёў. За 1998 год аграрны сектар аплаціў толькі 40 працэнтаў ужытай электраэнергіі, за студзень—люты 1999 года — 16 працэнтаў. Насельніцтва вобласці таксама аплочвае ўсяго 70 працэнтаў электраэнергіі. Усё гэта негатыўна адбіваецца на працы абласной энергасістэмы, паколькі 72 працэнты ад сабекошту рэальнай электраэнергіі атрымоўваюць з дапамогай такіх энергарэсурсаў, як газ і мазут, што паступаюць з-за мяжы.

Дарэчы, у сувязі з узрастаючай запазычанасцю беларускіх спажыўцоў РАТ «Газпрам» і РАТ «АЭС» на працягу 1999 года гэтыя расійскія манаполіі ўжо неаднаразова зніжалі аб'ёмы паставак газу і электраэнергіі. Да ўсіх вышэйпералічаных праблемаў трэба таксама дадаць 60-працэнтны знос асноўных фондаў вытворчага аб'яднання «Гроднаэнерга», якія не аднаўляюцца з-за недахопу абаротных сродкаў.

Спецыялісты выказваюць асцярогі, што, калі ў бліжэйшы час сітуацыя не зменіцца да лепшага, праз некалькі гадоў Гарадзенская вобласць будзе адчуваць вялікія праблемы з энергазабеспячэннем.

## Віленшчына павярнулася тварам

**Падпісанне пагаднення аб супрацоўніцтве паміж Гарадзенскай вобласцю Беларусі і Вільнюскім уездам Літвы стала вынікам двухдзённага візіту на Гарадзеншчыну прадстаўнікоў адміністрацыі Вільнюскага ўезду.**

Госці наведалі ВА «Азот», Гарадзенскае аддзяленне Беларускай гандлёва-прамысловай палаты, сельскагаспадарчае калектыўнае прадпрыемства «Прагрэс» Гарадзенскага раёна, сустрэліся з кіраўніцтвам абласнога цэнтру.

Дэлегацыя таксама ажыццявіла паездку па Астравецкім раёне, дзе кампактна пражываюць літоўцы.

## Мяжа не шкодзіць

**Дагавор аб супрацоўніцтве паміж Федэрацыяй прафсаюзаў Вінніцкай вобласці Украіны і аб'яднаннем прафсаюзаў Гарадзенскай вобласці падпісаны падчас візіту ў Гродна 23 красавіка дэлегацыі Федэрацыі прафсаюзаў Вінніцкай вобласці.**

Госці сустрэліся са старшынямі абкамаў галіновых прафсаюзаў Гарадзеншчыны. Старшыня абласнога савета аб'яднання прафсаюзаў Ірэна Шылконь расказала пра дзейнасць гарадзенскіх прафсаюзаў. У сваю чаргу, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Вінніцкай вобласці Валянцін Баранскі расказаў аб прафсаюзным руху на Украіне, дзе, акрамя Федэрацыі, існуюць 32 альтэрнатыўныя прафсаюзныя арганізацыі, аб узроўні сацыяльна-эканамічнай сітуацыі ў краіне, праблемах беспрацоўя, несвоечасовай выплаты заробку, сацыяльнай абароны пенсіянераў.

**Ася Куніцкая**




**28 і 29 красавіка** - месцамі кароткачасовыя дажджы, магчымы навальніцы. Вецер слабы. Тэмпература паветра ўначы +3...+9, удзень +15...+18.



**Каля сямі тысячаў чалавек узялі ўдзел у дэманстрацыі і мітынгу, якія былі прысвечаныя 13-ай гадавіне Чарнобыльскай трагедыі. 25 красавіка г. Менск.**

Больш падрабязна пра гэтую падзею - на стар. 2

# Першая кроў «объединения»

**Надвячоркам 25-га красавіка ў самым цэнтры Гродна міліцыя надзвычай жорстка збіла ўдзельнікаў несанкцыянаванага шэсця. На вуліцы Ажэшкі адбылося сапраўднае крывавае пабоішча.**

Па сведчанні відавочцаў, група маладых хлопцаў (каля 40 чалавек), апранутых пераважна ў камуфляжную форму, шыхтом ад драмтэатра прайшла па вуліцы Савецкай. У руках яны трымалі запаленыя паходні і вялікія бел-чырвона-белыя палотнішчы. Удзельнікі шэсця пратэставалі супраць падпісання ў Гродне дамовы пра далучэнне Беларусі да Расіі ды скандавалі патрыятычныя лозунгі.

Шэсце мела несанкцыянаваны, але не агрэсіўны характар. Акцыя была, відаць, загадзя добра падрыхтаваная, бо сталася нечаканай для ўладаў. Паводзіны міліцыі мелі характар, блізкі да істэрычнага. Менавіта іх непрафесійныя і неадэкватныя дзеянні і справакавалі беспрэцэдэнтную для Гродна бойку.

Калону, якая рухалася ў тры шэрагі, неаднаразова спрабавалі затрымаць, але марна. Насупраць аблвыканкама былі сабраны значныя сілы АМАПу. На дэманстрантаў спрабавалі наехаць машынамі, пускалі слезацёкавы газ, але ўдзельнікі шэсця адчайна бараніліся і адбівалі атакі. Урэшце шыхт удалося раскалоць, і тады завязаліся жорсткія крывавыя бойкі.

У выніку большасці ўдзельнікаў шэсця удалося ўцячы. Па розных звестках, каля 10-14 чалавек былі затрыманы. З абодвух бакоў было шмат пацярпелых - на бруканцы засталіся цэлыя лужыны крыві.

**Ад рэдакцыі:** ***Тыя, хто ўцягвае беларускіх грамадзянаў у імперскі саюз і балканскую вайну, павінны ўсвядоміць сваю адказнасць за лёсы людзей. Яны павінны зразумець, што такі «шлюб» Беларусі з Расіяй выкліча не натуральную «дэфларацыю», а рэкі крыві і сотні ахвяраў. У грамадстве спеюць радыкальныя настроі, патрыятычная моладзь становіцца схільнай да сілавых метадаў барацьбы. І стрымаць яе будзе не пад сілу нікому: ні ўладзе, ні лідарам дэмакратычнай апазіцыі. Падпісанне ганебнай дамовы ў Гродне непазбежна прывядзе да новых крывавых канфліктаў (крый Божа братазабойчых!). «Інтэгратары» павінны спыніць свае антынародныя і антыбеларускія намеры.***

# Дэбаты спыніў АМАП

**Хваля рэпрэсіўных мер у адносінах да прадрымальнікаў, паднятая прэзідэнцкім Дэкрэтам N15, не мінавала і Гродна. На самых вялікіх рынках - Паўднёвым і Цэнтральным - гандляры ўжо адчулі на сабе карныя меры, якія выкарыстоўваюць да тых, у каго адсутнічае сертыфікат якасці прадаваемага тавару. Праўда, пакуль гэта - прыцягненне да адміністратыўнай адказнасці і штраф у 2,5 мільёна рублёў. Колькасць ахвяраў, паводле словаў лідараў Прафсаюза прадпрымальнікаў, перасягнула за два дзесяткі.**

23 красавіка Гарадзенскі прафсаюз прадпрымальнікаў прыняў рашэнне абмеркаваць гэтую праблему на агульным сходзе ўсіх гандляроў горада з запрашэннем прадстаўнікоў гарадской адміністрацыі. Аднак мясцовыя ўлады не толькі адмовіліся ад дыялогу з прадпрымальнікамі, але і забаранілі дырэктару Палаца культуры хімікаў прадаставіць памяшканне для правядзення гэтага сходу.

Прадпрымальнікі, збянтэжаныя такой адкрытай пагардай да сваіх праблемаў, вырашылі самі ісці ў гарвыканкам. Аднак каля будынка гарадской адміністрацыі іх ужо чакаў нарад міліцыі. У адказ на просьбу прадпрымальнікаў і лідара прафсаюза В.Леванеўскага прапусціць іх (ці іх прадстаўнікоў) да кіраўнікоў выканкама, перад уваходам узнік кардон з шасці бравых малойчыкаў у камуфляжы. Падпалкоўнік Конкін надзвычай суровым тонам, запатрабаваў «разойтись, не нарушать порядок и не устраивать митинг». Каб хутчэй спыніць дэбаты, па рацыі быў выкліканы нарад АМАПу, які забраў В.Леванеўскага. Аднаго з прадпрымальнікаў прапусцілі ў будынак, астатнім давялося разысціся. Раздражнялі міліцыянтаў і журналісты. Аднаго з іх, карэспандэнта мясцовай газеты «Биржа информации», Анджэя Пісальніка, які вельмі смела карыстаўся дыктафонам, адвялі ў бліжэйшы міліцэйскі пастарунак.

Прадпрымальнікі былі ашаломлены такім прыёмам. Відаць, нават некалькі дзесяткаў мірна настроеных людзей (палова з іх - жанчыны), уяўляюцца ўладам выбухованебяспечнай масай, якую неабходна нейтралізаваць любымі сродкамі.

Як высветлілася пазней, карэспандэнта «БИ» адпусцілі, праслухаўшы касету. Валерыю Леванеўскаму ўручылі позву ў суд Ленінскага раёна г.Гродна. Прадпрымальнікі рыхтуюцца да акцыі пратэсту.

**Сава Травень**

**Першага траўня гарадзенская арганізацыя Маладога Фронту пры падтрымцы ГА «Ратуша» і ГА БНФ «Адраджэнне» распачынае Алімпіяду Беларускай Народнай Рэспублікі.**

**У праграме спаборніцтваў: лёгкая атлетыка (бег 60м, 500м, кіданне гранаты), футбол, баскетбол, стральба, армрэслінг, конкурсы «Гэй, беларусачка», «Лепшая карыкатура», «Літаратурнае чытанне», «Аўтарская песня». Адкрыццё Алімпіяды пачынаецца першага траўня ў 21 гадзіну каля Каложы.**

**Усе даведкі аб удзеле ў Алімпіядзе вы атрымаеце, калі патэлефануеце на нумар 72-11-83 з 15.00 да 19.00 штодня.**

## Мясціны, дзе жыве вольны дух

**24 красавіка, у міжнародны дзень салідарнасці моладзі, Гарадзенскія філіі БСДГ і фонду імя Льва Сапегі зладзілі цікавую імпрэзу.**

Два аўтобусы з актывістамі гарадзенскага моладзевага руху прыехалі ў Гудзевічы, дзе была арганізавана экскурсія ў музеі, створаным вядомым руплiўцам беларушчыны Алесем Белакозам. Затым у лесе адбыўся імправізаваны паэтычна-бардаўскі канцэрт пры вогнішчы. Удзел у канцэрце бралі пераважна маладыя выканаўцы. Госцем фэсту быў вядомы аўтар Андрэй Мельнікаў.

На зваротным шляху падарожнікі наведалі Багатырэвічы (вёска звязана з творчасцю Элізы Ажэшкі) і месца пахавання паўстанцаў 1863 года, дзе ў брацкай магіле знайшлі апошні спачын каля 40 змагароў за незалежнасць.

Такія выезды моладзі ў памятныя мясціны становяцца ўжо традыцыяй у дзейнасці гарадзенскай Грамады.

**Ладзік Майніч**

## Лепш купіць сваё, чым браць у арэнду чужое

**21 красавіка ў Гродне прайшоў 39-ы гарадскі аўкцыён па продажу аб'ектаў камунальнай маёмасці. Таргі былі падрыхтаваныя ўпраўленнем камунальнай маёмасці гарвыканкама г.Гродна пры тэхнічным садзеянні праекта Міжнароднай фінансавай карпарацыі (МФК) «Малая прыватызацыя на Беларусі», фінансуемага Агенцтвам ЗША па міжнароднаму развіццю.**

Да продажу на 39-м аўкцыёне прапанавалася сем будынкаў, у тым ліку два будынкі складоў, будынак канторы і будынак цэха перапрацоўкі. На ўдзел у таргах было пададзена чатыры заяўкі. Былі прададзены два лоты.

Будынак па 4-му завулку Куйбышава пры пачатковым кошце 660 мільёнаў рублёў быў куплены гарадзенскай фірмай, што займаецца пасажырскімі перавозкамі, за 750 мільёнаў рублёў. Увагу ўдзельнікаў аўкцыёна прывабілі таксама два будынкі па вул.Куйбышава, якія прадавалі адным лотам: іх кошт вырас з аднаго мільярда да аднаго мільярда 800 мільёнаў рублёў. Гэты лот набыла фірма, якая да нядаўніх часоў арандавала адзін з будынкаў. Паводле словаў прадстаўніка фірмы, купіць будынкі аказалася выгадней, чым пастаянна ўносіць арэндную плату.

Атрыманыя ад продажу аб'ектаў грошы ў памеры двух мільярдаў 550 мільёнаў рублёў паступяць у гарадскі бюджэт.

Дадатковую інфармацыю можна атрымаць ва ўпраўленні камунальнай маёмасці і прыватызацыі Гарадзенскага гарвыканкама па тэлефонах: (0152) 72-05-46, 47-29-56.

**Ул. Інф.**

**29 красавіка ў 18.30 у аўдыторыі N16 філалагічнага факультэта Дзяржуніверсітэта (корпус па вул. Леніна, 32) адбудзецца вечарына, прысвечаная памяці**

**паэта Андрэя Пяткевіча.**

**Шчыра запрашаем!**

ГРАМАДСТВА

# Старшыня Саюза палякаў Тадэвуш Гавін аштрафаваны на 115 мільёнаў рублёў

**Такі вырак абвясціў 21 красавіка суддзя па адміністрацыйных справах суда Ленінскага раёна горада Гродна Сяргей Ярашэвіч. Старшыня СПБ абвінавачваўся ў арганізацыі несанкцыяванага ўладамі пікета і выкарыстанні ўдзельнікамі акцыі пратэсту плакатаў, тэкст якіх нібыта абражаў гонар і годнасць высокага мясцовага і менскага чынавенства.**




Адказчык сябе вінаватым не прызнаў. Падчас разгляду справы нагадаў, што Саюз палякаў неаднаразова ў пісьмовай форме звяртаўся ў гарвыканкам з просьбай дазволіць правядзенне пікету ў абарону канстытуцыйнага права польскай нацыянальнай меншасці навучаць дзяцей роднай мове, мець свае школы. З розных прычын гарадзенскія ўлады забаранялі акцыю пратэсту.

Спадар Гавін лічыць, што лозунг «Віцэ-прэм'ер Уладзімір Замяталін, намеснік старшыні аблвыканкама Марыя Бірукова, старшыня Навагрудскага райвыканкама Анатоль Ліс душаць польскую мову» ні ў якім разе не абражае гонар і годнасць гэтых асобаў. Наадварот, адлюстроўвае сапраўдны стан справаў. Старшыня Саюза палякаў на Беларусі гатовы прадставіць суду дакументальныя сведчанні.

Прагучала хадайніцтва правесці філалагічную экспертызу тэксту плаката, каб атрымаць заключэнне спецыялістаў: ці ёсць у змесце плаката абраза? Каб вырашыць гэтае пытанне, суддзя пайшоў у пакой для прыняцця рашэнняў. Заадно ён спрабаваў высвятліць, чаму не з'явіліся на суд у якасці сведкаў супрацоўнікі міліцыі Ленінскага раённага аддзела ўнутраных справаў, які падаў дакументы на судовы разгляд.

Праз дваццаць хвілін слуханне справы было аднаўлена. Суддзя Ярашэвіч адхіліў хадайніцтва адказчыка правесці экспертызу тэкставага зместу плаката. Сведкі-міліцыянты ў залу пасяджэнняў суда не завіталі. Абвінавачванне ў знявазе гонару і годнасці грамадзян засталося ў сіле. Прагляду відэазапісу казённага апарата не спатрэбілася.

Суду быў прад'яўлены акт на валоданне Саюзам палякаў зямельным участкам. Старшыня СПБ даведў суддзі, што кожны гаспадар можа распараджацца сваёй тэрыторыяй па ўласнаму жаданню. На гэта не трэба дазволу улады. Група людзей, якая сабралася на падворку штаб-кватэры каля помніка славутаму Адаму Міцкевічу, не перашкаджала сваімі дзеяннямі ні пешаходнаму, ні транспартнаму руху. Паводзіла сябе прыстойна. Поўнасцю выканана адмова выканкама на правядзенне пікетавання на Савецкай плошчы ці на плошчы Леніна...

Суддзі Ярашэвічу зноў спатрэбіліся дваццаць хвілін на роздум. У выніку старшыня Саюза палякаў прызнаны вінаватым у парушэнні Закона Беларусі «Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні». Судовае пакаранне за парушэнне двух артыкулаў Кодэкса аб адміністратыўных парушэннях прадугледжвае зняволенне да 15 сутак ці грашовы штраф.

Пасля 40-хвіліннага перапынку для прыняцця рашэння і падрыхтоўкі судовай пастановы суддзя Сяргей Ярашэвіч зачытаў свой вердыкт: штраф у памеры 230 мінімальных заробкаў, што складае 115 мільёнаў беларускіх разліковых білетаў. Амаль год спатрэбіцца спадару Гавіну, каб са свайго заробку выплаціць гэтую суму.

Старшыня Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін збіраецца абскардзіць рашэнне суда Ленінскага раёна горада Гродна ў судзе вышэйшай інстанцыі.

Судовую справу разглядае, як працяг палітычнага ўціску на СПБ. Калі ўлічыць усе парушэнні адпаведных артыкулаў Канстытуцыі, законаў Беларусі, дзе гаворка вядзецца аб правах нацыянальных меншасцяў, то яшчэ невядома, хто зараз знаходзіўся б у судовай зале, заўважыў спадар Гавін.

Адпаведная заява пададзена ў суд Навагрдскага раёна на неправамоцныя дзеянні старшыні тамтэйшага райвыканкама, які адмаўляе ў просьбе бацькоў на будаўніцтва школы з польскай мовай навучання. З нераўзненнем ставіцца да вырашэння праблемаў польскай нацыянальнай меншасці ўлады Воранаўскага і Карэліцкага раёнаў. І пры гэтым, сведчыць старшыня СПБ, нам забараняюць публічна пратэставаць.

Калі беларуская Феміда будзе бездапаможнай, то Саюз палякаў мае намер звярнуцца ў міжнародныя судовыя органы.

**Антон Лабовіч**

**На здымку: Вось за гэты пікет і за гэтае вось справядлівае патрабаванне Беларускі суд і пакараў Гавіна**

## Курсы валют

**На 26 красавіка Нацыянальны банк Беларусі ўстанавіў наступныя афіцыйныя курсы валют:**

даляр ЗША — 242.000 беларускіх рублёў; еўра — 257.609,00; нямецкая марка — 131.713,39; расійскі рубель — 9.830; украінская грыўна — 61.601,12; аўстрыйскі шылінг — 18.721,18; брытанскі фунт стэрлінгаў — 391.047,79; італьянская ліра (за 100 адзінак) — 13.304,39; французскі франк — 39.272,24; швейцарскі франк — 161.161,43.

У параўнанні з пятніцай, 23 красавіка, афіцыйны курс даляра не змяніўся.

На «чорным» рынку наяўнай валюты ў Мінску раніцай 26 красавіка даляр куплялі па 380.000—385.000 і прадавалі па 395.000—400.000 рублёў.

У параўнанні з пятніцай курс не змяніўся.

**Дзмітрый Уласаў**

## Інфляцыю не дагналі

**У сакавіку 1999 года сапраўдны памер сярэдняй налічанай зарплаты рабочых і служачых у Беларусі ўзрос у параўнанні з лютым на 2,9 працэнта — з 34 да 35 даляраў ЗША у пераліку па рынкавым наяўным курсе.**

Паводле інфармацыі Міністэрства статыстыкі і аналізу Беларусі, у сакавіку зарплата рабочых і служачых узрасла на 17,2 працэнта — з 10.617.032 да 12.446.889 рублёў. Пры гэтым рынкавы курс даляра павялічыўся на 12,8 працэнта, а афіцыйны ўзровень інфляцыі склаў 12,1 працэнта.

Варта адзначыць, што ў першым квартале 1999 года рост зарплаты ў рублёвым выяўленні адстаў ад афіцыйнага ўзроўню інфляцыі. Калі зарплата ўзрасла на 46 працэнтаў, то спажывецкія цэны — на 48,6 працэнта.

Для параўнання: у сакавіку 1998 года сярэдняя налічаная зарплата рабочых і служачых была роўная 85 даларам ЗША, што ў 2,4 раза вышэй за цяперашні ўзровень.

**Дзмітрый Уласаў**

## Камітэтчыкаў пакрыўдзілі

**Шмат хто з грамадзянаў РБ гадоў пяць таму дастаткова зведаў праблемы і недарэчнасці, звязаныя з затрыманнем заробку. Пакрыўджанымі былі амаль усе, акрамя супрацоўнікаў камітэта дзяржаўнай бяспекі. Тады ім плацілі своечасова. Каб зняць напружанне ў грамадстве, Аляксандр Рыгоравіч паступіў «мудра»: у некалькі разоў знізіў і без таго малы заробак, і грошай стала хапаць усім.**

Пасля таго, як прэзідэнт выканаў свае передвыбарчыя абяцанні ды «запусціў» заводы, дзяржаўны бюджэт зноў адчуў недахоп грашовых сродкаў. Пакрыўджанымі гэтым разам аказаліся людзі з камітэта. У красавіку супрацоўнікам Гарадзенскага УКГБ на два тыдні затрымалі выплату авансу.

## Вялікдзень - не свята?

Такога свята як Вялікдзень для беларускіх уладаў не існуе ўвогуле. І як сведчанне таму - адмена двайных выплат за працу на першы дзень свята. Пакрыўджанымі аказаліся ўсе тыя, хто працуе па зменах, і ў гэты дзень заступілі на дзяжурства.

Гэта і медыкі, і дзяжурныя электрасетак, электрасувязі, вадзіцелі ды іншыя катэгорыі рабочых.

## Ёсць выбар: або вуліцу мяці, або грошы плаці

Чарговы неакамуністычны суботнік, што быў аб'яўлены ўладамі пасля паспяховага правядзення выбараў у мясцовыя Саветы прыпаў якраз на дачна-пасяўную кампанію. Простыя грамадзяне РБ ужо не вераць, што ў нашых крамах калі-небудзь будуць поўныя паліцы і намагаюцца прахарміць сям'ю на працягу года з невялікага лапіка зямлі памерам у дзесяць сотак. Улады таксама хочуць мець пазабюджэтныя некантралюемыя сродкі для сваёй патрэбы, бо апошнім часам у выніку правядзення такіх мерапрыемстваў, як суботнік, не ўзнікла аб'екту з шыльдаю: «Пабудаваны за сродкі...». Адбываецца сутыкненне інтарэсаў простых грамадзянаў і «вертыкалі».

У бюджэтных арганізацыях пытанне вырашылі «палюбоўна». Калі ты не хочаш ці не можаш удзельнічаць у суботніку, то з твайго заробку адлічваюць вызначаную суму. Напрыклад, санітарка Мастоўскага тэрытарыяльнага медычнага аб'яднання дае «адкупную» ў памеры пяцідзесяці тысяч рублёў, а медычная сястра - ужо сто тысяч.

У АТ «Мастыдрэў» да правядзення суботніка паставіліся больш сур'ёзна. Там выдалі загад аб абавязковым удзеле у мерапрыемстве. Тым, хто не пойдзе на дабраахвотнае мерапрыемства, будзе пастаўлены прагул.

**М.Падгайны**

# Мая міліцыя мяне...

**Як раней паведамляла газета ПАГОНЯ, у першую Велікодную ноч начальнік Мастоўскай міліцыі падпалкоўнік Мечыслаў Улан у п'янай ліхаманцы скіраваў пісталет на людзей, хаця ў кафэ «Купалінка», дзе ён адпачываў з жонкай, злачынцаў не было, а былі такія, як і ён, простыя людзі. Толькі з яго паводзінаў можна меркаваць, што простым ён сябе не лічыць, бо за казённы кошт будуе шыкоўны катэдж, а простыя людзі, згодна яго словаў, сказаных аўтару гэтых радкоў, людзі ніжэйшага гатунку.**

Такога меркавання, відаць, прытрымліваўся і яго падначалены, які на наступны дзень раніцай на міліцэйскай машыне пад'ехаў да хаты Іосіфа Бахара, што жыве ў вёсцы Масты Левыя. У аўтамабілі знаходзіліся чатыры асобы. Мужчына ў цывільным зайшоў у дом і не прадстаўляючыся, запытаўся ў гаспадыні пра мужа. Гаспадар у той час адсутнічаў. Незнаёмец заявіў кабеце пра тое, што яе муж скраў кабель, і тут жа распачаў пошукі. Пры гэтым ён не прадставіў санкцыі пракурора на вобыск і не паклікаў панятых. Але вобыск не даў ніякіх вынікаў, і супрацоўнікі РАУС з'ехалі ў пошуках Іосіфа Бахара. Апоўдні міліцыянты вярнуліся назад, калі той ужо быў дома. На гэты раз у машыне знаходзілася ўжо тры чалавекі. І зноў той жа мужчына зайшоў у хату. І па сённяшні дзень Іосіф Браніслававіч губляецца ў здагадках наконт яго прозвішча: ці то Мартынюк, ці то Мартыновіч. (Як потым высветлілася, ў Мастоўскім РАУСе ў аддзеле крымінальнага вышуку, якім загадвае маёр Кошур, працуе маёр Мартыненка.)

Незнаёмец запатрабаваў аддаць кабель, потым завёў гаспадара ў хляўчук і ўдарыў кулаком у твар. Іосіф Бахар абурыўся: «Калі вінаваты, то няхай мяне выклікае следчы», і атрымаў адказ: «Я - следчы». Надалей падзеі разгорталіся наступным чынам. Так званы «следчы» загадаў ехаць у аддзел, і Бахар бязвольна падпарадкаваўся невядомаму чалавеку, які мог быць проста бандытам. Да таго ж, як сведчыць Іосіф Браніслававіч, ахоўнік парадку быў настолькі п'яны, што ледзьве трымаўся на нагах. Былога рабочага АТ «Мастыдрэў» (зараз Іосіф Бахар пенсіянер) міліцыянты адвезлі да рачулкі Махнаткі, што ўпадае ў Нёман. Там і працягвалася беззаконне працягвалася.

«Тапіся ці аддай кабель!» - загадаў законапаслухмянаму грамадзяніну РБ супрацоўнік РАУС. І.Бахар адмовіўся выконваць загад. Тады пайшлі пагрозы накшталт «Я табе вочы выкалю!». Здзекаваліся хвілін дваццаць. Пасля гэтага, паводле словаў Бахара, яго пасадзілі ў машыну і павезлі тапіць у рэчку Зяльвянку. Па дарозе міліцыянт працягваў біць яго кулаком у твар. Потым выцягнуў шнурок з чаравіка і намагаўся звязаць ахвяры ногі.

Машына не даехала да рэчкі, спынілася ля гаражоў РАУС, дзе п'яны ахоўнік правапарадку працягваў здзек над чалавекам. Той самы шнурок ён завязаў да вадаправоднай трубы і загадаў на гэты раз: «Вешайся!». Потым адвёў Бахара ў камеру папярэдняга затрымання ды зацвердзіў: «Адсюль не вылезеш».

...Ккалі міліцыянт, відаць, стаміўся ў выведцы патаемнага кабеля, дык загадаў І.Бахару, каб чакаў яго, а сам некуды пайшоў. Беззаконна затрыманы чакаў свайго ката больш як паўтары гадзіны. Нечакана з'явіўся другі міліцыянт і зліташаваўся: «Ідзі. Ты не патрэбен».

Магчыма, усё гэта, як і іншае беззаконне, засталося б таямніцай. Але на наступны дзень да дома Іосіфа Бахара прыехала «Волга». У машыне было два чалавекі. Адзін з іх - той міліцыянт, які праводзіў «дазнанне». Але гаспадар яго ўжо не цікавіў. Ён шукаў ягонага сына. Дома быў малодшы сын. Супрацоўнік крымінальнага вышуку перш чым распачаць гутарку пра кабель, запытаўся, дзе працуе хлопец. А як даведаўся, што на лесапавале, дык чамусьці зазначыў: «Шмат зарабляе!». Потым паклікаў яго ў машыну, быццам бы ў Мастоўскім РАУСе няма кабінета, дзе можна было б, прытрымліваючыся ўсіх законаў, правесці дазнанне, не ганьбуючы службовага гонару і не ганьбячы людзей перад суседзямі.

З перасцярогі за тое, што сына напаткае тое, што і бацьку, маці стала прасіць, каб адпусцілі сына. Урэшце міліцыянты зліташаваліся.

Іосіф Бахар не сцярпеў беззаконня і звярнуўся ў пракуратуру, даў паказанні ды ў лякарні засведчыў цялесныя пашкоджанні.

**М.Карпейчык**

## Ваш голас, таварыш маўзер!

**З самага ранку 16 красавіка ў 4-й Гарадзенскай гарадской бальніцы медперсаналам двойчы паведамлялася пра паўторныя выбары ў мясцовыя Саветы і пра «абавязковае-абавязковае галасаванне». Перад самым абедам у палату з трыма дарослымі і трыма непаўналетнімі хворымі ўвайшлі двое «товарищей» з вельмі строгімі тварамі.**

Першы, у руках якога быў ліст паперы, уладным голасам спытаў:

- Здесь все проголосовали или нет?
- Я - не!
- Почему-у?!!
- Не хачу.
- Фамилия?
- Богуш.
- Будем разговривать с врачом!!!

Зрабіўшы запіс у лісце, абодва бадзёра пакрочылі ў наступныя палаты.

Як па цяперашніх часінах, то здарэнне з раздзелу шэраговых. Каб не адзін момант. Другім «товарищем» быў...міліцыянт!!! У форме, без халата, са скрынаю для галасавання і кабурою на поясе.

...Пры такім стаўленні «товарищей» да народнага волевыяўлення можна пераКрыць нават стопрацэнтную мяжу ўдзелу грамадзянаў у выбарах. Праўда, кабуру з пісталетам для поўнай гарантыі пажаданых вынікаў варта замяніць на кулямёт.

**Іван Богуш**

## І Гірках банкетная сувязь

У вёсцы Гіркі Воранаўскага раёна згарэў будынак, дзе месцілася бібліятэка, сельсавет і аўтаматычная тэлефонная станцыя. Апошнюю поўнасцю знішчыў пажар. Воранаўскія сувязісты за некалькі дзён уласнымі сіламі аднавілі станцыю. Толькі зараз яна знаходзіцца ў банкетнай зале сталовай, якой некалькі гадоў ніхто не карыстаецца.

**М.Карпейчык**

# Слонім ёй падаўся музеем XIX стагоддзя

**Днямі Слонім наведала госця з Германіі Карнэлія Розберг.**

Яна жыве ў горадзе Кобург, што ў паўночнай Баварыі. Спадарыня Розберг працуе медсястрой у клініцы для разумова адсталых людзей. Утрымліваецца бальніца на сродкі царквы. Падчас гутаркі госця паведаміла, што яна з'яўляецца сакратаркай мясцовай арганізацыі сацыял-дэмакратычнай партыі. Дарэчы, менавіта ў складзе партыйнай групы Карнэлія прыехала ў Беларусь.

Акрамя рэдакцыі "ГС", сп. Розберг зрабіла экскурсію па Слоніме: наведала Свята-Троіцкі храм, касцёл св. Андрэя, неўралагічнае аддзяленне бальніцы, сустрэлася з лідарамі мясцовых партыйных суполак і грамадскіх арганізацый.

Пасля наведвання бальніцы, немка выйшла са слязьмі на вачах.

— Я чула, што на Беларусі людзі дрэнна жывуць, але каб так жудасна, ніколі не думала, — сказала Карнэлія. — Слонім мне нагадвае маё дзяцінства, калі я жыла пры савецкай уладзе ва ўсходняй Германіі: той жа бедны асартымент тавараў, тыя ж умовы ў медычных установах... Слонім мне падаўся музеем XIX стагоддзя, ён мала падобны на сучасны горад, — з жалем заўважыла госця. Была яна здзіўлена, калі даведалася, што ўвесь гадавы гарадскі бюджэт складае ўсяго каля чатырох мільёнаў васьмісот дваццаці трох тысяч долараў.

Карнэлія Розберг актыўна супрацоўнічае з мясцовай газетай "Coburger Tageblatt" ("Кобургская штодзённая газета"). Спадарыня Розберг сказала, што на старонках гэтай газеты будзе надрукаваны артыкул пра яе візіт у Слонім.



**На здымку:** Карнэлія Розберг

Наталля Фурсава, фота Мікалая Супруна

# Каб пану Альшэўскаму ды рогі...

**За мінулыя суботу і нядзелю пра Гродна даведаўся ўвесь свет. CNN, венгры, чэхі, італьянцы ды іншыя паказалі сваім тэлегледачам, як «гуманна» вырашаецца «пытанне» з Саюзам палякаў на Беларусі ў Гродне.**

Аднак, як высветлілася, беларускія камуністы маюць саюзнікаў у Польшчы, напрыклад, вядомага польскага палітычнага дзеяча пана Альшэўскага. (Адпаведна апошнім польскім сацыялагічным апытанням, пагляды яго палітычнай партыі падтрымліваюць прыблізна 16 працэнтаў палякаў-рэспандэнтаў).

У панядзелак, 19 красавіка, у праграме «Forum» першага польскага тэлеканала пры сустрэчы лідараў палітычных партый Польшчы абмяркоўвалася сербска-албанская праблема ў Югаславіі. У перадачы дагаварыліся да таго, што Альшэўскі паставіў пытанне, сэнс якога звёўся да таго, як будзе ў далейшым дзейнічаць NATO па абароне палякаў на Беларусі ў выпадку няўдачы NATO ў Косаве?..

Пасля Лукашэнкі і Зюганава Альшэўскі стаў трэцім палітыкам, які выказаў меркаванне, што ўслед за бамбёжкамі Югаславіі на чарзе Беларусь...

Наогул, «гуманнасць» NATO ў адносінах да сербскага народа за кошт албанскага, «гуманнасць» беларускіх уладаў у адносінах да Саюза палякаў на Беларусі, «гуманнасць» меркаванняў Альшэўскага аб дапушчэнні баявых дзеянняў NATO ў Беларусі - усё гэта прадукт нецывілізаванага, недэмакратычнага грамадства, прадукт зусім не еўрапейскай культуры. Апошняя на Беларусі, дзякуючы намаганням прэзідэнта Лукашэнкі, паступова набліжаецца да еўразіяцкай сумесі, якую культурай назваць цяжка. Таму «дзяржымордаўскія» дзеянні беларускіх уладаў цалкам лагічныя. Іншая справа - Польшча...

Польшча заўсёды традыцыйна была ў цэнтры большасці культурных падзеяў Еўропы, мела еўрапейскі, своеасаблівы твар, мела заўсёды свае меркаванні ў духу еўрапейскай культуры... А тут - на табе! Аказваецца хоць вайны і не будзе, аднак будзе такая барацьба за мір, што каменя на камені не застанецца.

...Застаецца спадзявацца, што пан Альшэўскі ніколі не будзе рэальна вызначаць знешнюю палітыку нашых братоў-палякаў.

**Сяргей Міронаў**

# Левінскі і Віннікава. У дзвюх дзяржавах - дзве жанчыны

**Дастаткова нават аднаго погляду, каб яскрава пераканацца ў розным становішчы дзвюх жанчын у дзвюх дзяржавах пры двух прэзідэнтах, у прыватнасці, Монікі Левінскі і Тамары Віннікавай. Адна з іх адчувае сябе вольнай і незалежнай, другая - амаль год правяла за кратамі, а цяпер праводзіць час пад хатнім арыштам.**

Мы ўсе добра памятаем, як на працягу амаль года на нашых вачах у самым адкрытым выглядзе вырашаліся адносіны дзвюх розных жанчын у дзвюх розных краінах з двума таксама рознымі прэзідэнтамі.

З аднаго боку, згодна з паведамленнямі сродкаў масавай інфармацыі, у тым ліку і дзяржаўных сродкаў інфармацыі Беларусі, мы добра паінфармаваны пра ўзаемаадносіны прэзідэнта ЗША Біла Клінтана са сваёй былой сакратаркай Монікай Левінскі, а з другога боку - пра ўзаемаадносіны прэзідэнта Беларусі, «усенароднаабранага» Аляксандра Лукашэнкі са сваім былым кіраўніком Нацыянальнага банка Тамарай Віннікавай.

Пры гэтым Моніка Левінскі мае памкненні абвінавачваць Біла Клінтана ў тым, што ён разглядаў яе як жанчыну. У сваю чаргу Тамара Віннікава з дапамогай адвакатаў дамагаецца замены беспадстаўнага зняволення на хаця б бачнасць абгрунтавання для зняволення.

Пры гэтым нават няма ніякіх намёкаў, каб Тамара Віннікава хаця б падумала пра абвяшчэнне Аляксандру Лукашэнку імпічменту.

У нас, у Беларусі, усё наадварот: не Тамара Віннікава абвінавачвае Аляксандра Лукашэнку, а прэзідэнт беспадстаўна трымае жанчыну за кратамі. Ён з дапамогай сваіх памагатых пратрымаў Тамару Віннікаву амаль на працягу года за кратамі без суда і следства. Толькі з прычыны хваробы Віннікавай «усенароднаабраны» пагадзіўся замяніць яе часовае знаходжанне за кратамі хатнім арыштам.

Параўноўваючы лёс і дзеянні сакратаркі Монікі Левінскі з дзеяннямі і лёсам старшыні Нацыянальнага банку Тамары Віннікавай, непазбежна прыходзіш да сумнай высновы пра вельмі рознае і нават супрацьлеглае стаўленне да правоў чалавека, да канстытуцыйнасці і законнасці ў дзвюх краінах - Беларусі і ЗША. Прыцягвае да сябе ўвагу стаўленне дзвюх дзяржаваў і двух прэзідэнтаў да «дубіналу».

Пры параўнанні дзеянняў і становішча Монікі Левінскі і Тамары Віннікавай лёгка робіш заключэнне пра розныя адносіны да дэмакратыі ў ЗША і Беларусі. Так, у ЗША выкарыстоўваюць дэмакратычныя прынцыпы і дактрыны, каб выбіраць службовых асобаў ды самім жыць і надалей ва ўмовах дэмакратыі.

У нас жа, наадварот, у дысананс з дэмакратыяй электарат А.Лукашэнкі скарыстаў дэмакратычныя выбары 1994 года, каб назаўсёды «пазбавіцца» дэмакратыі і правоў чалавека. Дадаткова сведчаннем антыдэмакратычных памкненняў электарату А.Лукашэнкі служыць справы і словы «усенароднаабранага бацькі».

Калі задумацца над лёсам гэтых дзвюх жанчын з дзвюх розных дзяржаваў, то непазбежна прыходзіш да высновы, што (выкарыстоўваючы мову КГБ) «справа» Левінскі-Клінтан і адпаведная ёй «справа» Віннікава-Лукашэнка маглі ўзнікнуць толькі ў розных, адпавядаючых свайму духу і звычкам дзяржавах і грамадствах.

Сапраўды, «справа» Левінскі-Клінтан - гэта плён амерыканскага ўзроўню жыцця, амерыканскай канстытуцыі, амерыканскай дэмакратыі.

У сваю ж чаргу, справа Віннікава-Лукашэнка - гэта толькі вынік перамогі «бацькавага» электарату пасля ўздзеяння на электарат дзяржаўнай прапаганды «бацькавай» вертыкалі.

**Станіслаў Урбановіч**

# «Містэр Л., не бойся выбараў!»

**Пад такім дэвізам па ініцыятыве і пры ўдзеле работнікаў брусельскага офіса Хартыі-97 22 красавіка ў Брусэлі прайшоў пікет пратэсту ля дзвярэй амбасады Беларусі ў Бельгіі. У акцыі таксама прыняў удзел прэзідэнт фонда IFIAS Герд Грэйнэ, палітычныя эмігранты і прадстаўнікі беларускай дыяспары ў Бельгіі.**

Удзельнікі пікету затрабавалі правядзення прызначаных Вярхоўным Саветам на 16 траўня прэзідэнцкіх выбараў, адкрыцця ў амбасадзе выбарчага ўчастка, а таксама неадкладнага вызвалення кандыдата ў прэзідэнты, вязня сумлення Міхаіла Чыгіра.

Гучалі лозунгі «Чыгіру - свабоду, Лукашэнку - у турму!», «Містэр Л., не бойся выбараў!», «Беларусь - у Еўропу, Лукашэнка - у...», лозунгі на французскай мове. Падчас пікету распаўсюджваліся бюлетэні Хартыі-97 і «News from Belarus».

**Прэс-цэнтр Хартыі-97**

# Прэзідэнт знеслаўляе Беларусь

**Беларуская Асацыяцыя маладых палітыкаў звярнулася да прэзідэнта А.Лукашэнкі з заклікам публічна прынесці прабачэнні кіраўнікам амбасадаў еўрапейскіх дзяржаваў, акрэдытаваных у Рэспубліцы Беларусь.**

У звароце БАМП гаворыцца: «Агучванне кіраўніком дзяржавы паслання «парламенту», у частцы павучанняў замежным дыпламатам з'яўляецца нацыянальнай ганьбай. Крычаць і абражаць, - гэта справа слабакоў і невукаў. Аляксандр Рыгоравіч, Вы перабылталі селектарную нараду з вертыкаллю і мерапрыемства з удзелам дыпламатычнага корпуса. Калі Вы не бачыце розніцы паміж сваім укленчаным чыноўнікам і паўнамоцным прадстаўніком іншай дзяржавы, нам застаецца толькі выказаць спачуванне беларускаму народу».

Падобны стыль паводзінаў прэзідэнта, а не «інтрыгі» апазіцыі садзейнічаюць далейшай ізаляцыі Беларусі на міжнароднай арэне.

**Ул. Інф.**

# Век Юрмалы не відаць!

**Урад Латвійскай Рэспублікі ўвёў з 19 красавіка новы парадак афармлення віз, паведаміўшы пра гэта беларускаму МЗС толькі 21 красавіка. Аб гэтым на чарговым брыфінгу 22 красавіка паведаміў прэс-сакратар знешнепалітычнага ведамства Беларусі Мікалай Барысевіч.**

МЗС Беларусі, паводле яго словаў, «выказвае заклапочанасць» тым, што афіцыйная інфармацыя пра ўвядзенне новага парадку афармлення віз у Латвіі была атрымана ўжо пасля пачатку іх дзеяння.

У адпаведнасці з новымі правіламі аб парадку выдачы віз Латвійскай Рэспублікі і аб дзяржаўнай пошліне, падставай для атрымання візы з'яўляецца запрашэнне ад юрыдычнай або фізічнай асобы, засведчанае ў латвійскім упраўленні па справах грамадзянства і эміграцыі. Без запрашэння віза ў Латвію афармляецца па прад'яўленні турысцкай або курортнай пуцёўкі.

Нагадаем, што раней віза для паездкі па пуцёўцы ў гэтую краіну наогул не патрабавалася. У гэтай сувязі прэс-сакратар МЗС Беларусі выказаў «шкадаванне» тым фактам, што ўзгаданыя правілы закранаюць у першую чаргу беларускіх грамадзян, якія выязджаюць у Латвійскую Рэспубліку на курортнае лячэнне.

Па новых правілах, латвійская віза таксама выдаецца без запрашэння пры прад'яўленні пацвярджэння аб браніраванні гатэля ў Латвіі, дарожных чэкаў на суму ў разліку 100 долараў ЗША на кожны дзень знаходжання і білетаў на ўезд і выезд.

**Андрэй Асмалоўскі**

# Пісьменніца двух народаў

**Сёлета спаўняецца 130 гадоў, як вядомая польская аўтарка Эліза Ажэшка пасялілася на сталае жыхарства ў Гродне, дзе стварыла свае знакамітыя творы. Памерла ў 1910 годзе і тут пахавана. Удзячныя месцічы збудавалі славутай зямлячцы помнік. Гэта было 70 гадоў таму. Бюст работы вядомага скульптара Э.Жэрыха першапачаткова быў устаноўлены ў гарадскім парку. У часы нямецкай акупацыі патрыёты прыхавалі скульптурны воблік Элізы Ажэшкі побач з яе магілай.**

У адным з пакояў дома-музея пісьменніцы, што на вуліцы яе імя, можна пабачыць літаратурную экспазіцыю, прысвечаную творчаму шляху пані Элізы. У гэтым будынку былі напісаны амаль усе яе шматлікія апавяданні і аповесці - «Нізіны», «Дзюрдзі», «Хам», «Марта», раманы «Арганаўты», «Меір Язофавіч» ды іншыя.

Найбольш значным дасягненнем аўтаркі з'яўляецца раман «Над Нёманам». Яго героі - жыхары наднёманскага краю. Гэта мясцовая польская арыстакратыя і простае беларускае сялянства. З дзяцінства Эліза Паўлоўская (яе дзявочае прозвішча) увабрала ў сябе блізкія яе сэрцу вобразы. Бацькі дзяўчыны, заможныя землеўладальнікі, жылі ў маёнтку Мількаўшчызна каля Гродна.

Надзвычай цікавай спадчынай пісьменніцы застаецца яе перапіска з вядомым украінскім літаратарам Іванам Франко. Яны ніколі не сустрэліся. Хаця неаднойчы выказвалі такое пажаданне. У лістах паведамлялі пра сацыяльна-палітычнае і літаратурнае жыццё Польшчы і Украіны. Перакладалі творы адзін аднаго. Знаходзілі шмат агульнага ў паднявольным лёсе абодвух народаў, прыціснутых цяжкім царскім абцасам.

Нездарма прынёманскі край даў Беларусі нямала выдатных майстроў мастацкай прозы. Гэта Янка Нёманскі, Лукаш Калюга, Якуб Колас, Янка Брыль, Аляксей Карпюк. Тут расправіў крылы Васіль Быкаў.

Плённа працавала ў Гродне ў міжваенны перыяд вядомая польская пісьменніца Зоф'я Налкоўская. Менавіта яна прыязджала сюды ў 1929 годзе, выступала з прамовай падчас адкрыцця помніка Элізе Ажэшцы.

Творы пісьменніцы і сёння карыстаюцца попытам чытачоў. Дэмакратычныя традыцыі на ўзбраенні ўжо не аднаго пакалення.

**Антон Лабовіч**

# Ах, матушка, матушка!

**Ігуменя Гарадзенскага Свята-Раства-Багародзіцкага жаночага манастыра Гаўрыіла выказала намер прытуліць сто праваслаўных манашак - грамадзянак Югаславіі. Ініцыятыва накіравана на адрас патрыярха ўсея Русі Алексія і мітрапаліта Менскага і Слуцкага, Патрыяршага Экзарха Беларусі Філарэта.**

У сваім допісе «Чаму знішчаюць сербаў?», змешчаным ў абласной газеце «Гродзенская праўда» ад 8 красавіка г.г., ігуменя адказвае на сваё ж пытанне проста: таму, што яны праваслаўныя. «Душой сербскага народа, які і ў нас, росаў, беларусаў і ўкраінцаў, стваральнай і аб'ядноўчай сілай стала праваслаўе». З матушкінага пісання вынікае, што на Балканах ідзе рэлігійная вайна.

З вуснаў ігуменні Гаўрыілы гучаць да болю знаёмыя фразы. Напрыклад, «вайна з сербамі - гэта вайна з праваслаўнымі, а калі ты не праваслаўны, то які ж ты серб? Ты каталік? - значыць ты харват. Мусульманін? - значыць ты албанец!.. Ці не таму, што сербы праваслаўныя, на іх накіравалі страшную зброю ЗША і NATO». Матушка палохае вернікаў магчымай агрэсіяй супраць Беларусі «толькі таму, што наш Прэзідэнт -праваслаўны і мы, у сваёй большасці, народ праваслаўны».

Ва ўгоду палітычнай кан'юнктуры ваяўнічая матушка абвінаваціла «раскормленага на амерыканскіх харчах Пазьняка і ўсіх, хто ідзе супраць абранага славянскім народам Прэзідэнта».

Бог з ёю, з матушкай. Але ад яе пісання патыхае небяспекай, асабліва на нашых заходнебеларускіх землях, дзе здаўна мірна суседнічаюць так нялюбыя «хрыстовай нявесце» каталікі і мусульмане. Нібыта зноў чуецца старое і адкінутае гісторыяй: праваслаўны - беларус, каталік - паляк, мусульманін - татарын. Ці не гэта мела на ўвазе матушка Гаўрыіла? Дык што, супрацьстаянне з тымі ж каталікамі, мусульманамі? Некаму вельмі хочацца заганную практыку міжнацыянальных адносінаў Мілошавіча перанесці на беларускую зямлю...

Матушка ані словам не ўзгадвае пра дзесяткі тысяч нявінна сагнаных з родных котлішчаў албанцаў Косава. Пра тое, што гэта чыняць праваслаўныя сербы. Няўжо той, хто не праваслаўны - чалавек ніжэйшага гатунку? Але гэта не стасуецца са Свяшчэнным Пісаннем.

Там дзе палітыка, няма месца Госпаду. Матушка Гаўрыіла гуляе ў вельмі небяспечныя гульні. Няўжо яна прыехала да нас з Масквы, каб пасварыць вернікаў розных канфесій?

**Ул. Інф.**

## ПУНКТ ГЛЕДЖАННЯ

# «Чорная дзірка»

## З кнігі Збігнева Бжэзінскага «Wielka szachownica» («Вялікая шахматная гульня»)

Працяг. Пачатак у № 28 (405)

### Геастратэгічная фантасмагорыя

Непазбежным у постімперскай Расіі з'яўляецца таксама перыяд гістарычнага і геастратэгічнага хаосу. Вокамгненны распад Савецкага Саюза і асабліва дзіўная, нечаканая інтэграцыя Вялікарасійскай імперыі, выклікалі сярод расіян глыбокі роздум і дыскусіі на тэму актуальнай гістарычнай ролі Расіі, а таксама пытанні, якія ў вялікіх краінах нават не закранаюцца: «Чым з'яўляецца Расія? Дзе праходзяць яе межы? Што значыць быць расіянінам?».

Гэта зусім не рытарычныя пытанні. Адказ на кожнае з іх мае важны геапалітычны змест. Расія - гэта нацыянальная дзяржава, якая абапіраецца на спрадвечна рускае насельніцтва з этнічнага пункту гледжання, альбо Расія - гэта нешта большае (такім жа чынам, як Вялікабрытанія з'яўляецца нечым большым за Англію), і акрамя гэтага, ці з'яўляецца яе імперскі лад таксама непазбежным? Дзе з гістарычнага, стратэгічнага і нацыянальнага пункту погляду павінны праходзіць межы Расіі? Ці павінна незалежная Украіна з гістарычнай, стратэгічнай і нацыянальнай перспектывы ўспрымацца толькі ў якасці часовай аберацыі? (Такі пункт гледжання падзяляюць многія расіяне). Ці для таго, каб быць расіянінам, ім трэба нарадзіцца (быць рускім), або можна і не мець паходжання з карэннай рускай сям'і, а быць расіянінам толькі ў палітычным значэнні? (Быць расіянінам у гэтым значэнні адпавядае паняццю быць «брытанцам», а не «ангельцам»). Напрыклад, Ельцын і частка расіян сцвярджалі, што чачэнцы могуць (і нават павінны) лічыцца расіянамі, што і абумовіла трагічныя наступствы.

За год да развалу Савецкага Саюза расійскі нацыяналіст, адзін з тых, хто прадчуваў набліжэнне канца, адчайна выгукнуў:

«Калі сапраўды здарыцца гэтая страшная катастрофа, няўяўная для расійскага народа, і дзяржава разваліцца; калі народ, які будзе падмануты і пазбаўлены сваёй тысячагадовай гісторыі, нечакана стане адзінокім, а яго нядаўнія «браты», забраўшы свае рэчы, сядуць у «нацыянальныя лодкі» і пакінуць расхістаны карабель, тады нам ужо няма куды будзе адыходзіць...

Расійская дзяржава, якая ўвасабляе «ідэю Расіі» ў палітычным, эканамічным і маральным сэнсе, будзе адноўлена. Яна спалучыць у сабе найлепшыя традыцыі свайго тысячагадовага праўлення і сямідзесяцігадовай гісторыі Савецкага Саюза, што прамільгнула ў адзін момант». **(Аляксандр Праханаў. «Трагедыя цэнтралізму»// Літаратурная Расія, студзень 1990 года. С.4-5.).**

Але якім жа чынам аднавіць гэтую дзяржаву? Гістарычны крызіс Расіі ўскладніў пошукі рэалістычнага адказу на дадзенае пытанне. Ва ўсёй расійскай гісторыі дзяржава была адначасова інструментам тэрытарыяльнай экспансіі і эканамічнага развіцця. Гэта была дзяржава, якая ўспрымалася не толькі як інструмент вырашэння нацыянальных задач, адпаведна заходнееўрапейскім стандартам, але і як выканаўца асаблівай гістарычнай місіі, што носіць падцыянальны характар, дзяржава з «ідэяй Расіі», сфармуляванай у рэлігійных, геапалітычных ды ідэалагічных катэгорыях. Зараз гэтая місія раптам страціла сэнс, бо дзяржава зменшылася тэрытарыяльна да памераў, роўных тэрыторыі, населенай карэннымі рускімі. Постсавецкі крызіс расійскай дзяржавы (можна сказаць, яе «квінтэсенцыі») паглыбіўся таму, што Расія зняпацку страціла сваё імперска-місіянісцкае прызначэнне. Акрамя таго, жадаючы зменшыць велізарную бездань паміж сацыяльна адсталай Расіяй і больш развітымі часткамі Еўразіі, расійскія прыхільнікі рэформаў (ды іх заходнія дарадчыкі) вырашылі зрабіць так, каб расійская дзяржава адмовілася ад сваёй традыцыйнай ролі ідэолага, уласніка сродкаў вытворчасці і раздатчыка багаццяў. Яны адкрыта дамагаліся рэвалюцыйнага абмежавання ролі дзяржавы ў галіне знешняй і ўнутранай палітыкі, што глыбока супярэчыла большасці сталых догматаў грамадскага жыцця Расіі і ўзмацняла пачуццё геапалітычнай дэзарыентацыі сярод расійскай кіруючай эліты.

У такой неспакойнай сітуацыі на пытанне «Куды ідзе і чым з'яўляецца Расія?» падаваліся розныя адказы. Размяшчэнне Расіі на прасторах Еўразіі выклікала сітуацыю, пры якой яе эліта з даўніх часоў мела схільнасць да мыслення геапалітычнымі катэгорыямі. Першы міністр замежных справаў Расіі пасляімперскай і посткамуністычнай эпохі Андрэй Козыраў пацвердзіў такі падыход у адной са спробаў акрэсліць ролю сваёй краіны на міжнароднай арэне. Праз месяц пасля распаду Савецкага Саюза ён зазначыў: «Адмаўляючыся ад місіянізму, мы пракладаем шлях прагматызму...мы хутка зразумелі, што месца ідэалогіі...займае геапалітыка». **(Інтэрв'ю «Российской газете», 12 студзеня 1992 года).**

Можна сказаць, што пасля распаду Савецкага Саюза ўзніклі тры агульныя, часткова сумяшчальныя, геастратэгічныя канцэпцыі, кожная з якіх закранала праблему адносінаў Расіі і Амерыкі ды заключала ў сабе некалькі варыянтаў. Гэтыя канцэпцыі можна коратка выказаць наступным чынам:

1. Прыярытэт «сталага партнёрства» з Амерыкай, што для некаторых прыхільнікаў гэтай канцэпцыі з'яўлялася, па сутнасці, сінонімам расійска-амерыканскага сусветнага панавання.

2. Акцэнтаванне факту, што галоўнай крыніцай непакою для Расіі з'яўляецца «блізкае замежжа»; да таго ж, некаторыя прыхільнікі гэтай канцэпцыі выказваліся за эканамічную інтэграцыю пры захаванні дамінавання Масквы, іншыя ж спадзяваліся на вяртанне некаторай формы імперскага кантролю, дзякуючы якому з'явілася б дзяржава, здольная ў большай ступені ўраўнаважыць уплыў Амерыкі і Еўропы.

3. Контрсаюз, што грунтуецца на стварэнні еўразіяцкай антыамерыканскай кааліцыі, якая абмяжоўвала б перавагу ЗША ў Еўропе.

Хаця сярод новай каманды прэзідэнта Ельцына спачатку пераважала першая канцэпцыя, аднак у хуткім часе стала папулярнай таксама і другая, што адбылося часткова ў выніку нарастаючай крытыкі геапалітычных прыярытэтаў Ельцына. Трэцяя канцэпцыя з'явілася крыху пазней, у сярэдзіне 90-х гадоў, як рэакцыя на пачуццё неразумення і неэфектыўнасці постсавецкай геастратэгіі Расіі. Так ужо склалася, што ўсе гэтыя тры канцэпцыі былі гістарычна памылковымі і вынікалі з фантастычных, нават фантасмагарычных, ілюзій пра магутную Расію, яе міжнародны патэнцыял і сферу яе замежных інтарэсаў.

Адразу пасля распаду Савецкага Саюза палітыка Ельцына абапіралася на яшчэ раней накіраваную ў бок Захада канцэпцыю расійскай палітычнай думкі. Гэтую тэорыю, якая так і не атрымала поўнага поспеху, можна коратка выказаць наступным чынам. Расія прыналежыць Захаду, павінна стаць яго часткай і па магчымасці павінна ўнутрана рэфармавацца на заходнім узоры. Прыхільнікам гэтых поглядаў быў сам Ельцын і яго міністр замежных справаў. Прэзідэнт вельмі рашуча адхрысціўся ад імперскай спадчыны Расіі. Падчас свайго выступлення 19 лістапада 1990 года ў Кіеве Ельцын красамоўна сказаў тое, што пазней у якасці аргумента супраць яго маглі выкарыстаць украінцы і чачэнцы: «Расія не жадае станавіцца цэнтрам новай імперыі... Расія разумее лепш за іншых, наколькі згубныя вынікі гэтага, таму што яна працяглы час выконвала такую ролю. А што яна ад гэтага атрымала? Ці расіяне сталі больш свабоднымі? Больш здаровымі? Шчаслівымі?.. Гісторыя навучыла нас, што народ, які прыгнятае іншыя народы, не можа дасягнуць поспеху».

Мэтанакіраваная прыязная палітыка, якую праводзіў Захад, і асабліва ЗША, у дачыненні да новых кіраўнікоў Расіі, надавала новых сілаў постсавецкім прыхільнікам празаходняй арыентацыі («оксідэнталістам»), рускай эліце, фармуючай знешнюю палітыку краіны. Яна ўзмацняла праамерыканскія настроі, а таксама згуртоўвала членаў гэтых эліт. Кіраўнікоў Расіі цешыла тое, што яны былі на «ты» са знакамітымі палітыкамі супердзяржавы; не зважаючы пры гэтым на ілюзорнасць сваёй супердзяржаўнасці. Калі амерыканцы прапанавалі лозунг аб «сталым партнёрстве» Вашынгтона і Масквы, расіянам падалося, што ўрэшце працяглы перыяд суперніцтва перайшоў у новы стан дэмакратычнага сумеснага расійска-амерыканскага сусветнага панавання ў кандамініуме.

Такі кандамініум павінен быў ахапіць увесь свет. Расія тады стала б не толькі прававым пераемнікам былога Савецкага Саюза, але і дэ-факта - партнёрам у гэтым сусветным саюзе, што абапіраецца на сапраўдную роўнасць. Як увесь час падкрэслівалі расійскія кіраўнікі, гэта азначала, што астатняя частка свету павінна была прызнаць Расію роўным партнёрам Амерыкі, і ніводная міжнародная праблема не магла вырашацца без яе ўдзелу і згоды. З гэтым звязвалася, хаця і ніколі не вымаўлялася ўслых, таксама перадумова, што Цэнтральная Еўропа застанецца (нават, можа, па ўласнай волі) рэгіёнам, палітычна цесна звязаным з Расіяй. У такім выпадку распад Варшаўскага дагавора і Савета эканамічнай узаемадапамогі не выклікалі б такога моцнага памкнення іх былых членаў да НАТО і Еўрапейскага Саюза.

У той жа час эканамічная дапамога Захада павінна была садзейнічаць правядзенню ў Расіі ўнутраных рэформаў: паслабіць дзяржаўнае ўмяшанне ў эканоміку і ўмацаваць дэмакратычныя інстытуты. Аднаўленне эканомікі Расіі, яе асаблівы статус роўнага партнёра Амерыкі, а таксама проста прывабнасць Расіі - усё гэта прывяло б маладыя незалежныя дзяржавы (што ўваходзяць у склад СНД), якія ўдзячны Расіі за тое, што яна ім больш не пагражае, а таксама ўсведамляюць карысць саюза з Расіяй, да больш цеснай эканамічнай, а пазней і палітычнай, інтэграцыі, што павялічыла б геаграфічную тэрыторыю і магутнасць Расіі.

Аднак гэтая тэорыя мела адзін недахоп: яна грунтавалася на памылковай ацэнцы міжнароднай і ўнутранай сітуацыі. Канцэпцыя «сталага стратэгічнага партнёрства» цешыла расіянаў, але адначасова ўводзіла іх у зман. Амерыка зусім не збіралася дзяліць з Расіяй ролю лідара на сусветнай арэне, а калі б нават і хацела, то не здолела б гэтага зрабіць. Новая Расія была досыць слабой, разбуранай падчас кіравання камуністаў на працягу трох чвэрцяў стагоддзя, і даволі адсталай у сацыяльным плане, каб стаць дастойным партнёрам Амерыкі. Паводле меркавання Вашынгтона, Германія, Японія і Кітай былі не менш важнымі і ўплывовымі. Акрамя таго, мэты Расіі і Амерыкі разыходзіліся ў галіне некаторых ключавых геастратэгічных праблемаў, важных для інтарэсаў ЗША, і тых, што датычылі Еўропы, Блізкага і Далёкага Усходу. Калі гэтыя супярэчнасці непазбежна пачалі выяўляцца, то дыспрапорцыі, якія ўзніклі ў палітычным уплыве, фінансавых рэзервах, тэхналагічным прагрэсе і культурнай прывабнасці выклікалі такую сітуацыю, пры якой «сталае стратэгічнае партнёрства» з'явілася папросту «мыльнай бурбалкай», а ўсё большая колькасць расіянаў пачала ўспрымаць падзеі як добра падрыхтаваную гульню, што мела на мэце падмануць Расію.

Магчыма, гэтага можна было б пазбегнуць, калі б раней, у перыяд расійска-амерыканскага «мядовага месяца» Амерыка прапанавала план пашырэння НАТО і адначасова заключыла з Расіяй спецыяльнае пагадненне аб супрацоўніцтве з альянсам. Калі б Амерыка рашуча падтрымала ідэю пашырэння НАТО з агаворкай, што з цягам часу да яго далучыцца і Расія, то гэта, відаць, і не абумовіла б далейшага расчаравання ў канцэпцыі «сталага партнёрства» і паступовую страту пазіцый з боку прыхільнікаў празаходняй арыентацыі ў Крамлі.

Гэта можна было зрабіць у другой палове 1993 года, адразу пасля публічнай заявы Ельцына ў жніўні аб тым, што зацікаўленасць Польшчы ўступленнем у НАТО не супярэчыць «інтарэсам Расіі». Замест таго адміністрацыя Клінтана, кіруючыся ў той час лозунгам «Расія перш за ўсё», вагалася на працягу двух гадоў, пакуль Крэмль не змяніў свой тон і не пачаў дэманстраваць нарастаючую варожасць у адносінах да ўсё болей частых, але нерашучых, амерыканскіх сігналаў наконт пашырэння НАТО. І калі ў 1996 годзе Вашынгтон вырашыў усё ж пашырыць НАТО - галоўны інструмент амерыканскай палітыкі, што прадугледжваў стварэнне большай і больш бяспечнай еўраатлантычнай зоны, - расіяне заявілі рашучы пратэст. У сувязі з гэтым 1993 год можна назваць годам страчанага гістарычнага шанцу.

Неабходна адзначыць, што не ўсе хваляванні Расіі, якія датычылі пашырэння НАТО, былі неабгрунтаванымі ці вынікалі з кепскіх намераў. Безумоўна, некаторыя праціўнікі, асабліва сярод вайскоўцаў, працягвалі меркаваць катэгорыямі халоднай вайны, успрымаючы пашырэнне НАТО не як інтэгральную частку пабудовы Еўропы, а хутчэй за ўсё як набліжэнне да межаў Расіі па-ранейшаму варожага ваеннага блока пад кіраўніцтвам Амерыкі. Частка расійскай эліты, фармуючай знешнюю палітыку, якая складаецца ў асноўным з былых савецкіх функцыянераў, заставалася на пазіцыях сталых геастратэгічных поглядаў, што ЗША не павінны ўплываць на сітуацыю ў Еўразіі, і што экспансія НАТО не што іншае, як выяўленне памкненняў амерыканцаў да пашырэння сферы ўласнага ўплыву. Іх супраціўленне пашырэнню вынікала таксама з надзеі на тое, што Цэнтральная Еўропа, не звязаная з НАТО, калі-небудзь зноў можа апынуцца ў зоне геапалітычнага ўплыву адноўленай Расіі.



І ўсё ж большая частка расійскіх дэмакратаў таксама асцерагалася, што пашырэнне НАТО стане прычынай знаходжання Расіі па-за Еўропай, асудзіць яе на палітычны астракізм, і яе прызнаюць нявартай для членства ў арганізацыйных структурах еўрапейскай цывілізацыі. Палітычныя асцярогі ўзмацняліся таксама адчуваннем сваёй культурнай слабасці, а экспансія НАТО стала здавацца кульмінацыйным пунктам палітыкі Захаду, якая прадугледжвала ізаляцыю Расіі, а таксама стварэнне спрыяльнай глебы для пагрозы з боку яе шматлікіх ворагаў. Акрамя ўсяго гэтага, расійскія дэмакраты былі папросту не ў стане зразумець антыпатыю Цэнтральнай Еўропы да Расіі, выкліканую паўвекавым панаваннем Масквы, а таксама іх памкненне ўвайсці ў шырокую еўра-атлантычную сістэму.

Пасля разгляду ўсіх фактаў, мы разумеем, што расчараванні расійскіх прыхільнікаў празаходняй арыентацыі і паслабленне іх пазіцый былі непазбежнымі. Новая ж расійская эліта, якая была разрознена і не мела рашучага геастратэгічнага правадыра ні ў асобе прэзідэнта, ні ў асобе міністра замежных справаў, сама не магла дакладна акрэсліць, якую ж ролю павінна выконваць у Еўропе новая Расія, і не здолела рэальна ацаніць абмежаванні, што ўзніклі з прычыны паслаблення краіны. Расійскія дэмакраты, атакаваныя палітычнымі праціўнікамі, не зрабілі смелай заявы наконт таго, што дэмакратычная Расія не супраціўляецца пашырэнню дэмакратычнай атлантычнай сістэмы, і што сама жадае наладзіць з ёю сувязі. Ілюзорнасць сусветнага партнёрства з Амерыкай перашкодзіла палітычнай эліце Масквы адмовіцца ад прэтэнзіяў на прывілеяванае палітычнае становішча не толькі на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, але і на тэрыторыі былых дзяржаваў-сатэлітаў Цэнтральнай Еўропы.

У гэтай сітуацыі выйгралі нацыяналісты, што ў 1994 годзе зноў сталі ўзнімаць галовы, а таксама мілітарысты, якія ў гэты перыяд падтрымлівалі ўнутраную палітыку Ельцына і былі яго галоўнымі прыхільнікамі. Іх варожая рэакцыя ў адказ на памкненні краін Цэнтральнай Еўропы толькі ўзмацніла жаданні апошніх (якія добра памяталі, што зусім нядаўна вызваліліся з-пад расійскага прыгнёту) знайсці надзейны прытулак у структурах НАТО.

Бездань паміж Вашынгтонам і Масквой павялічылася яшчэ больш пасля таго, як Крэмль не пажадаў адмовіцца ад тэрыторый, захопленых Сталіным. Заходняя грамадская думка, асабліва ў скандынаўскіх краінах, была ўзрушана двухсэнсоўным стаўленнем Расіі да прыбалтыйскіх рэспублік. Нават кіраўнікі расійскіх дэмакратаў, што хоць і прызнавалі суверэнітэт прыбалтыйскіх дзяржаваў, але не дамагаліся іх уваходу ў СНД, час ад часу не маглі ўтрымацца ад пагрозаў, мэтай якіх было атрыманне спецыяльных ільготаў для рускіх жыхароў гэтых краін, мэтанакіравана расселеных там у сталінскую эпоху. Сітуацыя пагоршылася, калі Крэмль рашуча адмовіўся асудзіць савецка-нацысцкае пагадненне 1939 года, якое паклала пачатак далучэнню гэтых рэспублік да Савецкага Саюза. На працягу пяці гадоў пасля распаду Савецкага Саюза прадстаўнікі Крамля трымаліся той думкі (у афіцыйнай заяве 10 верасня 1996 года), што ў 1940 годзе прыбалтыйскія дзяржавы далучыліся добраахвотна.

Постсавецкая расійская эліта відавочна чакала, што Захад дапаможа вярнуць ёй ролю лідара на тэрыторыях былога Савецкага Саюза, прынамсі, не стане гэтаму перашкаджаць. Таму так неахвотна была ўспрынята дапамога Захада маладым незалежным дзяржавам ва ўмацаванні іх незалежнасці. Нават перасцерагаючы, што «палітыка канфрантацыі са Злучанымі Штатамі Амерыкі...ёсць з'ява, якой трэба пазбягаць», расійскія даследчыкі знешняй амерыканскай палітыкі сцвярджалі (зусім не без падставаў), што ЗША імкнуцца «рэарганізаваць міждзяржаўныя адносіны ва ўсёй Еўразіі...,каб не дапусціць існавання на кантыненце адзінай, дастаткова моцнай, дзяржавы, а падтрымаць існаванне шматлікіх, адносна стабільных, дзяржаваў сярэдніх памераў...умеркавана моцных, але больш слабых за ЗША, па сваіму нават разам узятаму патэнцыялу». **(А.Багатураў, В.Крамянюк (старшыя навуковыя супрацоўнікі Інстытута Злучаных Штатаў Амерыкі і Канады). «Самі амерыканцы ніколі не спыняцца»// «Независимая газета», 28 чэрвеня 1996 года).**

У гэтым плане вызначальную ролю адыграла Украіна. Калі ЗША, асабліва ў 1994 годзе, пачалі надаваць шмат увагі двухбаковым адносінам з Украінай і дапамагаць замацаванню нядаўна атрыманай ёю свабоды, многія маскоўскія палітыкі, у тым ліку з празаходняй арыентацыяй, прызналі палітыку ЗША, якая ўплывала на жыццёва важныя інтарэсы Расіі, а ў перспектыве спадзявалася на аднаўленне свайго лідарства ў гэтай краіне. Тое, што Украіна будзе «інтэграванай» хаця б нейкім чынам, было непахіснай упэўненасцю шматлікіх прадстаўнікоў кіруючай расійскай эліты. (Напрыклад, адпаведна агенцтву Інтэрфакс (20 лістапада 1996 года), адзін з асноўных саветнікаў Ельцына Дзмітрый Рурыкаў назваў Украіну «часовай з'явай», а маскоўская «Общая газета» (10 снежня 1996 года) пісала, што «ў будучым падзеі ва ўсходняй частцы Украіны могуць паставіць перад Расіяй вельмі цяжкую праблему. Масавыя дэманстрацыі незадаволенасці...будуць суправаджацца зваротамі да Расіі, і нават патрабаваннямі, каб яна забрала гэты рэгіён. Шмат хто ў Маскве ахвотна падтрымаў бы такія планы». Занепакоенасць Захада памкненнямі Расіі, канешне ж, не паслабіла расійскія прэтэнзіі на Крым і Севастопаль, таксама як і правакацыйныя дзеянні ў выглядзе наўмыснага ўключэння Севастопаля напярэдадні 1996 года ў лік расійскіх гарадоў падчас вячэрняга тэлевізійнага паведамлення прагнозу надвор'я). У выніку непрыманне Расіяй геапалітычнай і гістарычнай своеасаблівасці пачало супярэчыць амерыканскаму меркаванню аб адсутнасці ў Расіі імперскіх амбіцый.

**Працяг будзе**

# У купалаўцаў ізноў аншлаг

**16 красавіка ў будынку Гарадзенскага тэтра драмы пачаліся юбілейныя гастролі Беларускага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы. Яны будуць доўжыцца да 25-га красавіка.**

Гастролі адкрыла пастаноўка «Князь Вітаўт», бэстсэлер А.Дударава. Перад пачаткам спектакля перад публікай выступілі афіцыйныя асобы і купалаўцы. Людміла Кадзевіч падзякавала артыстам за «невялікія, але вельмі для нас дарагія гастролі». Артыст тэатра імя Я.Купалы Віктар Манаеў адзначыў, што «Гродна невыпадкова стаў першым горадам гастрольнага турнэ ўлюбёных гарадаў, куды заўсёды прыязджаеш з радасцю».

У мінулым годзе, калі наш гарадзенскі драмтэатр адзначыў свой юбілей - 50-годдзе - купалаўцы гралі падчас святочных дзён «Ідылію» Дуніна-Марцінкевіча. Сёлета яны прывезлі пяць спектакляў: «Князь Вітаўт», «Інтымны тэатр», «Піраміда Хеопса», «Ідылія», «Паўлінка». Дарэчы, білеты на «Князя Вітаўта» і «Паўлінку» скончыліся за некалькі дзён да пачатку спектакляў. На астатнія імпрэзы можна было дастаць месца на балкон.

Гарадзенскія ж артысты на гэтыя дні павезлі менскім гледачам лепшыя свае пастаноўкі: «Рагнеда і Уладзімір», «Рамантыкі», «Сямейны ўікэнд» і «Кароль, дама, валет».

Купалаўскі «Князь Вітаўт» сапраўды меў поспех у гарадзенскай публікі, хаця спектакль разлічаны на нейкі гістарычны досвед гледача і з месцаў некаторыя мармыталі: «Ну-у, тут думаць трэба...». А шмат хто блытаў Крэва з Кракавам і Ягайлу з Кейстутам.

Дзеянне адбываецца напрыканцы 14 стагоддзя, калі ліцвіны знаходзіліся ў стане бесперапынных усобіцаў, калі хрысціянства яшчэ не перамагло язычніцтва. Прыгожыя дэкарацыі, аздабленне дзеі танцамі дзяўчат-купальніц, багаты сімвалізм і «крутая» гістарычная інтрыга заўсёды вабілі гледача. І нават нягледзячы на ўнушальную камплекцыю князя Вітаўта і не надта магутны целасклад Ягайлы публіка ў захапленні ад спектакля праводзіла актораў сапраўды бурнымі авацыямі, якія не змаўкалі на дзіва доўга - каля пяці хвілін. Потым паклоннікі даравалі кумірам кветкі і ўцiралі слёзы катарсісу - для чаго, уласна кажучы, тэатр і існуе.

У 2000-м годзе тэатр імя Янкі Купалы адзначыць сваё 80-годдзе. Гарадзенскія гастролі завершыць бессмяротная купалаўская «Паўлінка».

**Алена Сіневіч**



**Мікалай Крывальцэвіч, сябра Мартыролага Беларусі, складвае ў магілу чалавечыя косткі, якія хтосьці выкапаў 18-19 красавіка з мясцін пахаванняў ахвяраў бальшавіцкіх растрэлаў ва ўрочышчы Курапаты пад Менскам. Вандалы раскапалі шэсць месцаў пахаванняў.**
**Фота:IREX/ProMedia.**

# Брама ў новае вымярэнне

**У мінулую пятніцу ў галерэі «У Майстра» адкрылася персанальная выстава гарадзенскага мастака Аляксандра Сільвановіча.**

Выстава мае назву «Брама». Брама - галоўны герой выставы і ў прамым, і ў пераносным сэнсе. Галоўнае месца ў зале займае вялікая работа, на якой выяўлена стылізаваная брама. Гэты матыў шмат разоў паўтараецца ў іншых выстаўленых карцінах. Нарэшце, як заўважыла гаспадыня галерэі Алена Пілічава, «брама сімвалізуе магчымасць пераходу з адной прасторы ў другую, мажлівасць адкрыцця новага, выйсце ў новае вымярэнне, у будучыню».

Прадстаўленыя работы Аляксандра Сільвановіча схіляюць да меркаванняў, што аўтар знайшоў асабістую мастацкую стылістыку. Уся кампазіцыя складзеная ў адзінай танальнасці. Карціны уяўляюць сабой звонку нешта памежнае з арнаменту і інкрустацыі. Дасканалы падбор фарбаў «Чарапахі» ствараe падманны эфект, нібыта панцыр не намаляваны, а штучна створаны мастаком з матэрыялу, блізкага да натуральнага. Наогул, усе прадстаўнікі жывёльнага свету, натуральна ўпісаныя ў геаметрычна размеркаваны мастацкі свет, выглядаюць лагоднымі і свойскімі. На палотнах пераліваецца свет халоднакроўных амфібій у магічную прастору «Калдуна-1» і «Калдуна-2». А тая нясе ў сабе пачатак лічбавай гульні, якая, у сваю чаргу, перацякае ў архітэктурныя варыяцыі.




Геаметрычныя кампазіцыі «Вежы», «Маста», «Брамы» раскладваюць наш няправільны, недасканалы свет на «мастацкія формулы». Пошукі залатога сячэння прывялі да стварэння яркіх, у нейкай ступені, дэкаратыўных карцін, выверанай, амаль матэматычная прыгажосць якіх магнетызуе гледача, не даючы адвесці позірк.

Выставы «У Майстра» заўсёды становяцца мастацка-сямейным святам. Так і ў мінулую пятніцу тут сабраліся добрыя сябры мастацкіх і калямастацкіх колаў, каб за келіхам шампанскага і куртуазнай размовай адзначыць падзею ў мастацкім жыцці горада. Як паркатаваў сам віноўнік ўрачыстасці Аляксандр Сільвановіч, «яшчэ адна нагода паштурхацца ўсім разам». Ён адзначыў, што зараз знаходзіцца «на грэбні хвалі» - гэта значыць, у творчым і жыццёвым уздыме. Вынікам такога ўздыму і стала выстава.

Усё б так і ішло сваім парадкам, але на вернісажы была свая інтрыга на тэму выбараў (не блытаць з нядаўнім грамадзянскім абавязкам) - «У Майстра» проста гулялі ў латарэю. Азарт гульцоў падагрэў цудоўны прыз - невялікая, але вельмі прыгожая карціна Аляксандра «Алень». Цікавай акалічнасцю стала тое, што выйграў нумар 32 - сума дзвюх дат адкрыцця выставы (16 красавіка). Відаць, нездарма мастак шукае ў сваіх работах магію матэматыкі, разлінейваючы палатно на клеткі, трапецыі ды іншыя фігуры.

**Алеся Макавецкая**

# Патанчылі й годзе!..

**У Наваполацку спыніла сваё існаванне дыскатэка, якую ладзілі сябры мясцовага аддзелу Маладога Фронту і гарадской грамадскай моладзевай арганізацыі «Крок разам». Паспрыяла гэтаму мясцовая «вертыкаль».**

Вось ужо паўтара года хлопцы і дзяўчаты з гэтых незалежных арганізацыяў кожныя два тыдні праводзілі ў памяшканні Палаца спорту і культуры вытворчага аб'яднання «Палімір» цудоўныя вечары адпачынку для студэнтаў Полацкага дзяржаўнага універсітэта. Ладзілі яны гэтыя вечары абсалютна «на грамадскіх пачатках» - уся выручка ад продажу квіткоў ішла ў касу ПСК. Дыскатэкі карысталіся незвычайнай папулярнасцю сярод моладзі: кожную з іх наведвала каля 300 чалавек. Прычым абыходзіліся заўсёды без крывавых боек ды п'яных пагоняў палектыкаў. Галоўнай адметнасцю менавіта гэтых вечарынаў была амаль стоадсоткавая адсутнасць расейскай «папсы» - замест яе дыджэі «круцілі» замежную музыку ды песні ў выкананні вядомых беларускіх рок-калектываў. Быў у гісторыі дыскатэкі і «жывы» канцэрт «Вольныя танцы», у якім бралі ўдзел гурты «Камэлот» і «Мясцовы час». Не так даўно праводзіла тут сваю імпрэзу і гасцяваўшая на Полачыне каманда «Шоу Беларушчыны», спонсарам якой, дарэчы, была «Беларуская маладзёжная».

Для ўваходу на дыскатэку разам з квіткамі распаўсюджваліся спецыяльныя запрашальныя білеты - флаеры, на якіх былі пазначаныя арганізатары акцыі. Вядома, прысутнасць гэткай рэкламы Маладога Фронту не спадабалася «вертыкальным». На кіраўніцтва вытворчага аб'яднання ды яго Палаца спорту і культуры распачаўся ўціск, які спрыша выліўся ў папярэджанне, а ўрэшце - у забарону правядзення дыскатэкі. Намеснік старшыні гарвыканкама Туранок разам са сп.Пальцавым, што адказвае за ідэйна-выхаваўчую працу на прадпрыемстве, прымусілі кіраўніцтва ПСК адмовіць студэнтам у праве культурна адпачываць пад нармальную музыку. Зараз ім давядзецца наведваць дыскатэкі, дзе іх слых будуць гвалціць шэдэўры кшталту "Я люблю тебя, Дима». Ці ў якасці «культурнага адпачынку» студэнтам прапануюць пасяджэнні БПСМу?

# Як беларус стаў ваеннапалонным у сваіх, а затым ворагам народа

**16 красавіка Аляксандру Якаўлевічу Паўлоўскаму, жыхару Скідаля споўнілася 90 гадоў. Жыццёвы шлях яго быў поўны трагізму, пакут і зняваг.**

У 1939 годзе трыццацігадовага селяніна-бедняка польскія ўлады прызвалі ў Войска Польскае і залічылі у 6-ы пяхотны полк. Калі пачалася вайна з нямецка-фашысцкімі захопнікамі, 6-я пяхотная дывізія змагалася пад Люблінам ды іншымі гарадамі, з баямі адступаючы на Усход. У другой палове верасня дывізія апынулася на тэрыторыі Брэсцкай вобласці, дзе яе разбройла Чырвоная Армія. Здавалася, што вайна для Аляксандра Паўлоўскага закончылася, і ён разам з іншымі беларусамі пакрочыў дадому. Але ж неўзабаве яго затрымаў ваенны чырвонаармейскі патруль, і Аляксандр Якаўлевіч апынуўся за калючым дротам лагера для ваеннапалонных польскіх салдат.

Такой сталася для многіх беларусаў вызваленчая місія Чырвонай Арміі: яны адчувалі сябе нібы чужаземцы ў сваёй дзяржаве. Лагер знаходзіўся пад горадам Сарны, што на Украіне. Умовы ўтрымання былі жорсткія: голыя нары, паўгалодны паёк, а працаваць прымушалі па дванаццаць і болей гадзін у дзень. Будавалі ваенны аэрадром.

З пачаткам вайны Саюза з фашысцкай Германіяй ваеннапалонных пад узмоцненай аховай пагналі на ўсход. Харчавання па дарозе - аніякага, што траплялa пад руку з зеляніны, тое і елі. Часта калону ваеннапалонных абстрэльвала і бамбіла варожая авіяцыя.

Да Старой Беліцы, а гэта больш за 600 кіламетраў ад г.Сарны, дайшла толькі палова ваеннапалонных. Гэта была дарога смерці. У Старой Беліцы іх загналі на адкрытыя чыгуначныя платформы і павезлі на поўнач, ажно ў Архангельскую вобласць на лесараспрацоўкі.

Праца была вельмі цяжкая, а харчовы паёк - нікуды не варты. Людзі ад знясілля падалі і паміралі па некалькі дзесяткаў чалавек штодня. Здавалася, што такі лёс чакае і Аляксандра Паўлоўскага, але ўсё склалася інакш. У 1942 годзе Аляксандра Якаўлевіча нечакана залічылі (не спытаўшы яго-най згоды) ў Войска Польскае, якое ўтвараў генерал Андэрс. Неўзабаве Паўлоўскаму прапанавалі разам з салдатамі пакінуць тэрыторыю Саюза. Праз Іран Войска Польскае апынулася ў Італіі, дзе прымала ўдзел у баях супраць фашысцкай Германіі пад Сан-Марына.

Пасля заканчэння вайны Аляксандр Якаўлевіч разам з іншымі салдатамі-беларусамі патрапіў у Англію. Аднак туга па сям'і, якая жыла ў Скідалі, цягнула на радзіму. З цяжкасцю ён атрымаў дазвол вярнуцца, гэта адбылося праз восем гадоў. Радасць вяртання для Аляксандра Якаўлевіча і ягонай сям'і была вельмі вялікай, але нядоўгай. У 1948 годзе яго, як ворага народа, разам з сям'ёй арыштавалі і выслалі ў Іркуцкую вобласць на вечнае пасяленне, а хату разам з маёмасцю канфіскавалі. І толькі ў 1957 годзе сям'я Аляксандра Якаўлевіча атрымала дазвол вярнуцца на радзіму бацькоў, дзе знаходзіла прытулак не ў сваёй хаце, а на прыватных кватэрах. Хату вярнулі толькі ў 1971 годзе, давёўшы яе да ручкі, а за канфіскаваную маёмасць аплацілі мізэр. Дзяржава нават не выдаткавала сродкаў на аднаўленне жылля.

Не вытрымаўшы пакутаў і здзекаў, заўчасна памерла жонка Аляксандра Якаўлевіча Яўгенія. Дапамагае бацьку цяпер дачка Ніна, якая жыве побач.

Званне ветэрана другой сусветнай вайны, а затым Айчыннай, Аляксандр Паўлоўскі атрымаў толькі ў 1991 годзе, і то дзякуючы польскаму ўраду.

Вось якой была вызваленчая місія Чырвонай Арміі для шматлікіх жыхароў Беларусі ў верасні 1939 года. 60-годдзе гэтай падзеі мы будзем адзначаць сёлета. Тая вызваленчая місія скалечыла жыццё не толькі Аляксандру Якаўлевічу Паўлоўскаму.

**Ільля Барысаў**

# Сцягі над горадам

**У ноч з 21 на 22 красавіка невядомыя наваполацкія патрыёты вывесілі ў горадзе два вялізныя бел-чырвона-белыя сцягі. Гэтай акцыяй мясцовыя паслядоўнікі Мірона зноў нагадалі пра сябе пасля некаторай паўзы.**

Па добрай традыцыі адзін са сцягоў быў прымацаваны да дроту каля навучальнага корпуса Полацкага дзяржаўнага універсітэта. Другі з'явіўся над мастом пры ўездзе ў прамысловую зону, так што ўсе навапалачане, якія ранкам ехалі на працу, змаглі яго ўбачыць.

Сярод гараджанаў узніклі спрэчкі наконт таго, да чаго магла быць прымеркавана гэтая акцыя. Тое, што яна не мае аніякага дачынення да святкаванняў 129-годдзя са дня нараджэння «вождя мирового пролетариата» Леніна, стала відавочным адразу. Большасць з людзей трымаецца думкі, што гэта з'яўляецца працягам кампаніі па выбарах прэзідэнта Беларусі, якія мусяць адбыцца 16 траўня гэтага года.

**Андрэй Аляксандраў**

# Прагноз надвор'я - на 160 гадоў...

**Гістарычныя крыніцы сведчаць, што гарадзенская метэастанцыя была заснавана ў 1839 годзе. Тады ж, праездам, у горадзе спыняўся знакаміты Гогаль. Даўно няма на свеце Мікалая Васільевіча. А цэнтр па гідраметэаралогіі па-ранейшаму працуе па прызначэнні.**

Сёння калектыў налічвае каля 50 работнікаў. Асаблівая ўвага надаецца складанню прагнозаў надвор'я для правядзення сельскагаспадарчых работ. Неабходныя дадзеныя збіраюць дзесяць вадамерных пастоў. Пастаянна кантралюецца забруджанасць атмасфернага паветра ў абласным цэнтры. Яно, дарэчы, не лепшае, асабліва ў цэнтры Гродна, яго гістарычнай частцы.

Установа мае патрэбу ў сучасным абсталяванні. Новыя прыборы атрымалі як не дзесяць гадоў таму. Летась напаткала яшчэ адна бяда: злодзеі пакваліліся на два камп'ютары, тое-сёе з іншых прыладаў.

Канешне, гарадзенскі цэнтр гідраметэаралогіі пакуль што не можа канкураваць з такімі моцнымі спецыялізаванымі асяродкамі, як варшаўскі ці, на горшы выпадак, менскі. Жыхары рэгіёна найбольш прыслухоўваюцца да польскага тэлебачання. Аператыўны прагноз надвор'я, складзены суседзямі для сваіх усходніх ваяводстваў, амаль на сто працэнтаў адпавядае і памежнаму прынёманскаму краю.

**Антон Лабовіч**

# Душа мая, чаго ты патрабуеш?..

Спакою? А каму яго не хочацца... Пяшчоты? А дзе яе набярэшся... Кахання? Пад прымусам не кахаюць...

**А што яшчэ патрэбна, мая душа?**

***

Чамусьці ўсё часцей прыходзяць успаміны дзяцінства, майго далёкага, рамантычнага маленства...

Дзе жылі-былі мой дзядуля Адам, мае мамуся Марыся і татко Янак, мамусіна сястра Ядвіся, якую я клікала ажно да сёмага класа Ядзькай (ніяк не магла вымавіць слова «цётка», бо яна была вельмі маладзенькая, прыгожая, вясёлая), суседзі баба Стася і дзед Антось, баба Антоля...

І помняцца мне пахі, пахі тае пары...

Пах квітнеючых яблыняў, пах півоняў, пах язміну, пах нейкіх здзічэлых жоўтых кветак, ад водару якіх кружылася галава, пах свежых агуркоў, якія, дарэчы, дзед Адам на дух не пераносіў...

...Сажалка... Жоўтаць... Кумкаюць-спяваюць жабкі, а маленькія апалонікі прыемна казычуць дзіцячыя ножкі...

Зіма... На сажалцы зрабілі «круцёлку» старэйшыя, «дарослыя» дзеці, гадоў па 14-15, а мы, малюпатыя, з чырвонымі шчокамі і сінімі ад марозу рукамі, з хлебам-цукрам-вадой-салам, чапляемся да іх на палазы... І ніхто не праганае нас!

І татко мой, якому было



мо гады 23, - з намі!..

І весела, і хораша, і радасна, і ўзнёсла на душы маёй!..

Пах грыбнога лесу! Нясу шчаслівая дахаты кошычак рыжыкаў, а ў дзеда Адама - паўнюткі кош шчырых грыбоў!..

Памятаю, як мы разам з дзедам (калі жылі яшчэ ў Драўлянах) ездзілі на ровары да касцёлу ў Каменку; як ехалі туды па шашы на коніку раным-раненька, і нам дарогу перабегла, прамільгнула ў туманова-промневых зайчыках вавёрачка!.. Во радасці дзе было! І колькі шчасця! А побач, на брычцы, дзед Адам кіруе Косяй, і мы, старое і малое, быццам спазнаўшы нейкую таямніцу - едзем недзе. У Каменку, да касцёлу.

Бо адна дарога была праз Залессе, гасцінцам: значыць - тады на ровары. А другая - шашой, тады - на Косі...

Дзед тады шмат чаго распавядаў мне... Ну, зразумела, наколькі мне дазваляла дзіцячая дапытлівасць...

Вельмі мне цікаўна было, хто такія тутэйшыя. Ён жа адказваў, што гэта вельмі файны народ, і клічуць яго, дакладней даўней клікалі ліцвінамі... А я: «А літоўцы хто?» Ён і кажа: «Гэтыя - жамойць»...

Потым было навучанне мяне нямецкай і рускай мовам, адначасова.

Паставіць мяне дзед на крэсла сваё і кажа: «Пачынай!» Я што ёсць моцы «дэкламую»:

*«Скажите, дядя, ведь недаром*
*Москва, спалённая пожаром...»*

І да самага канца, на памяць...

А па нямецку: «Мутер, фатер, аўфвідэрзэен», «гутэн таг» і г.д. Вельмі мне падабалася вучыцца...

Потым быў 1956 год. Мая другая бабця Стэфанія надумала ад'ехаць у Польшчу, у Лодзь, да старэйшай дачкі, маёй цёткі Ванды. І забраць мяне з сабой. Назаўсёды. (Калі-небудзь пра гэта, можа, раскажу асобна).

І толькі на чыгунцы, літаральна за хвіліну да адыходу цягніка мяне забралі дзед Адам і татко з мамусяй ад бабкі Стэфкі...

Бабця Стэфанія... Мая ўлюбёная баба, мая найважнейшая, найлепшая каляжанка з маленства... Дзе мы толькі з ёй ні былі: у Вільні, дзе яна вянчалася ў касцёле Свентай Ганны, у Гродне, у Шчучыне, у Харціцы, у Мастах...

А як яна песціла мяне! Пярына пад бокам, пярына пад галавой, і пярынай накрывала! А пацеры... Усе на памяць ведала, нават цёткі старыя Яня і Фэля зайздросцілі мне, як без малітоўніка дзіця моліцца Богу!

І зноў жа - пахі: панскага саду, гаспадаром якога некалі быў граф Талонец, ён нават самалёт свой меў. Сама бачыла той здымак у бабы Стасі, бо жонка графа была нейкай яе сваячкай...

Шмат распавядалі мне ў дзяцінстве пра швэдаў, пра французаў, пра войны з імі; пра пана Міцкевіча ды ягоныя «Дзяды»... Ды яшчэ пра тое, як мясцовы пан з паняю нешта не падзялілі, дый той застрэліў яе са стрэльбы, а потым і сябе знішчыў...

***

Памятаю: пасадзілі мяне на Косю верхам, каб маленькая шляхцянка ўмела ездзіць, і павялі па дарозе, абсаджанай бэзам і шыпшынай. (Ах, гэты бэз!). Але суседні хлопчык так гікнуў на Косю, што той пайшоў галопам, і я скацілася з коніка, нібы спелы яблык з дрэва... На твары да гэтай пары нашу шнар...

А яшчэ на мяне нацкавалі сабаку, нямецкага аўчара, ад якога таксама засталіся знакі...

***

**Душа, душа мая, што ты шукаеш поначы, што табе недалягае?..**

***

Горадня... Менавіта так называлі ў той час Гродна. Альбо - Горадна...

Гэты перыяд майго маленства не такі эмацыянальны, не такі запамінальны: ужо і пахі не тыя, і людзі інакшыя, і дзеці, якія размаўлялі не панашаму, якія не слухаліся сваіх бацькоў, былі нейкія злыя, вельмі моцна гаварылі, нават крычалі, быццам усе навокал глухія!!! Не шанавалі старэйшых...

І людзі дарослыя: што мужчыны, што кабеты - усе імкнуліся гаварыць між сабой нейкімі незразумелымі, брыдкімі словамі. Усе яны адзін аднаго - што малыя, што старыя - называлі на «ты». Усё часцей мне чуліся словы: «достал», «давай дёрнем», «ни хрена», «всё путём», і, што самае смешнае - усіх пасылалі «к ... матери».

Я ўсё думала, а што там за мама такая ў іх, што яны не любяць яе, не шануюць, а толькі лаяць...

...Стала яшчэ больш народу ад'язджаць у Польшчу... У гарадзенскай дзедавай хаце, што была непадалёк ад польскіх могілак, шэптам, усё часцей сталі казаць пра тых, каго «башлыкі» (г.зн. бальшавікі) знішчылі, альбо адправілі ў Казахстан, на Калыму і г.д. Шкадавалі іх бязмерна. Употай чыталі іх рэдкія лісты.

У Горадні ўжо хадзілі мы з дзедам Адамам да касцёлу пешшу... Бо недалёка, па-першае, а, па-другое, - пакуль прыйдзем на службу, то дзед здыме капялюш для прывітання разоў дваццаць: шмат было ў яго мілых сяброў ды знаёмых.

Але самае галоўнае, што чакала мяне кожную нядзелю ў касцёле - гэта сустрэча з арганам. Мне дазвалялі сядзець на хорах! Седзячы на самай верхняй прыступцы, зусім побач з панам арганістым, прыяцелем майго дзеда, і, гледзячы, як ён перабірае нагамі педалі аргана, у душы маёй маленькай нараджалася нешта высокае, узнёслае, светлае і чыстае, ад чаго па твары маім ціха каціліся слёзы. А пан арганісты сардэчна ўсміхаўся мне...

Гэта былі цудоўныя імгненні...

**Душа мая, ты патрабуеш гукаў?**

Памятаю, як узрывалі Фару, касцёлы, цэрквы... Як мой дзед маліўся Пану Богу, стоячы перад абразамі са свечкай на каленях, і з вачэй па вусах яго сівых цяклі горкія срэбныя кроплі горычы, адчаю, роспачы і...незнаёмага мне пакуль пачуцця...

Можа...праклёну? Навошта было падымаць руку на Святыні? Хто ведае...

Але што можа ведаць пра астраномію крот?..

**Ванда Драўлянская**





## Змрочны вершнік

Паляванне, ізноў паляванне...
Скрозь спакою няма ў нашым краі.
Ноч хаваецца ў шэрым тумане,
Галавешкі ад зорак збірае.

Цені мкнуцца і чуюцца гукі:
Дробны пошчак капытаў нясецца.
І страляюць нябачныя лукі,
І ад стрэлаў няма куды дзецца.

Хуткі бег нараджае знямогу.
Ты мяне прад сабой не гані,
Чорны вершнік на чорным кані,
Я і сам сваю знаю дарогу.

Век бяжы, а спачыць - не спачнеш.
І не збочыш - твой цень за спіною.
Што ты робіш, ну што ты чыніш,
Змрочны дэман, са мною?

Мой на золак шлях, твой - у багну,
У бяздонне са стромай кручы,
Я світальнага Сонца прагну,
Абмінаючы Месяц бліскучы.

Ёсць жывое і мёртвае ззянне.
Месяц зманлівым свеціць агнём.
А пад ім нараджаюцца здані,
Каб растаяць раскавечаным днём.

Ноч хаваецца, золіцца ранне...
Веру, будзе дасягнута Мэта,
Бо сваё мы пачнём паляванне
У Харугве Баяна-Паэта.

Як і я, ты пад сцягам надзеі
У Бязмежжа дарогу знаходзь.
Нас, як хвалі, узносяць падзеі
Да вяршыняў амаль мімаходзь.

Паляванне, ізноў паляванне...
Зноў спакою няма ў нашым краі.
Ноч хаваецца ў шэрым тумане,
Галавешкі ад шчасця збірае.

Цені мкнуцца і чуюцца гукі,
Дробны пошчак капытаў нясецца.
І страляюць астральныя лукі
Вострым болем пад самае сэрца.

**Хведар Дрыгвіч**

## Дзевяць плюс адзін

**Першыя дзевяць пытанняў з'яўляюцца своеасаблівым тэстам на ўзровень вашай эрудыцыі. Правільныя адказы на іх змешчаныя ніжэй. На дзесятае пытанне конкурсу трэба адказаць пісьмова на адрас рэдакцыі (на паштоўках ці канвертах пазначыць - «9+1»). Сярод лістоў ды паштовак з правільнымі адказамі будзе праведзена лёсаванне, якое і вызначыць, хто ж стане пераможцам і атрымае прыз ад рэдакцыі нашай газеты.**

**1. Першынство па колькасці ўжывання піва на душу насельніцтва належыць...**
а) Бельгіі;
б) Чэхіі;
в) Германіі.

**2. Аблам - гэта...**
а) пабудова над абарончымі сценамі і вежамі замкаў Беларусі ў XVI-XVII стагоддзях;
б) нафтавае радовішча ў Саудаўскай Аравіі;
в) прозвішча беларускага вучонага ў галіне кібернетыкі.

**3. Ільвы спяць...**
а) 20 гадзін у суткі;
б) двое сутак;
в) ноччу.

**4. Апоры любога гідратэхнічнага збудавання называюцца...**
а) мачты;
б) быкі;
в) ногі.

**5. Вядома, што самы жахлівы драпежнік мезазойскай эры тыраназаўр, у пашчы якога было некалькі соцень зубоў, зусім...**
а) не ўмеў глытаць;
б) не мог бегаць;
в) не ўмеў жаваць.

**6. Абозны - гэта...**
а) вышэйшы чын пры ваенным гужавым транспарце і абозах у дарэвалюцыйнай Расіі;
б) пасада ў войску ВКЛ і Рэчы Паспалітай у XVI-XVIII стагоддзях;
в) выбарная вайсковая пасада на Украіне ў XVI ст.

**7. Што акрамя агню, часнаку і крыжа дазваляе абараніцца ад вампіраў?**
а) люстэрка;
б) галінка асіны;
в) дзікая ружа.

**8. Які паэт даведаўся ад свайго двайніка, што ў хуткім часе ўтопіцца?**
а) Гётэ;
б) Барры;
в) Шэллі.

**9. Колькі чалавек у той ці іншай форме прадказалі пагібель «Тытаніка»?**
а) болей за дваццаць;
б) больш як трыццаць;
в) недзе пяцьдзесят.

**Правільныя адказы:** 1в, 2а, 3а, 4б, 5в, 6б, 7в, 8в, 9а.

*Дзевяць правільных адказаў - выдатна, 7-8 - вельмі добра, 5-6 - добра, 3-4 - здавальняюча, менш як 3 - у Вас ёсць над чым папрацаваць.*

**10. У 1938 годзе адзін японец аднёс у мясцовы храм любімую ляльку сваёй памерлай сястры. Калі праз дзевяць гадоў ён зайшоў у храм... Што ж здарылася?**

**Адказ на дзесятае пытанне папярэдняга конкурсу (гл. ПАГОНЮ N 25 ад 8 красавіка г.г.):** індзейцы лічылі, што гэта парэшткі іх продкаў.

*Пераможцу папярэдняга конкурсу - **Максіма Каратаева** з Гродна -чакае прыз у рэдакцыі нашай газеты. Шчыра віншуем!*

# Што такое лічба?

Слова «лічба» ў перакладзе на рускую мову азначае «нішто». Калі індыйцы прыдумалі пісаць нуль, то назвалі гэты знак «сунія», што значыць «пустое». Арабы запазычылі гэты знак у індыйцаў, але слова «сунія» пераклалі на сваю мову. Па-арабску гэта гучыць «сіфр».

Доўгі час так называлі «нуль». Пазней для лічбы «0» узялі назву з лацінскай мовы - «нуллюс», па-лацінску - «ніякі».

**Ю.Шастак**

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі:
230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11.
Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96.
E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: 63124.

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 2149 Наклад 4831
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 26.04.99 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае прадстаўленым рэдакцыяй дыяпазітывам.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Тацяна Лучыц
Камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей

Аб'ём -- 2 умоўных друкаваных аркуша